# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 5 30 студзеня 1992 г. Выдаецца з 1955 г.

[2251] Цана 8 кап.



Упершыню сталіцу незалежнай Беларусі Мінск наведаў апостальскі нунцый архіепіскап Франчэска Касаролі. Ватыкан мае намер устанавіць з Рэспублікай Беларусь дыпламатычныя адносіны. Калі ўзяць пад увагу, што ў нас каля 600 тысяч католікаў, то зацікаўленасць Апостальскага прастола ў добрых стасунках з Беларуссю зразумелая.

У час візіту высокага госця ў Кафедральным саборы, што на плошчы Свабоды ў Мінску, Франчэска Касаролі абвясціў пасланне папы рымскага Іаана Паўла II аб утварэнні Мінска-Магілёўскай каталіцкай мітраполіі, мітрапалітам якой стаў Казімеж Свёнтэк.

НА ЗДЫМКУ: Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі Казімеж СВЁНТЭК.

*НАТАТКІ ФІЛОСАФА*

## КРЫЗІС ІДЭАЛАЎ І ІДЭАЛЫ ЭПОХІ КРЫЗІСУ

Зменлівыя рэальнасці сучаснага быцця, глыбінныя працэсы перамен у эканамічнай, палітычнай, ідэйнай сферах жыццядзейнасці грамадства выклікаюць настойлівую неабходнасць перагляду ці карэкцыі падыходаў да выхаваўчага працэсу. Магутныя, амаль тэктанічныя зрухі ў грамадскім жыцці ў спалучэнні з эканамічным крызісам, што ўсё больш паглыбляецца, дапаўняюцца хваравітымі працэсамі крызісу ў грамадскай свядомасці, што непазбежна вядзе да той з'явы, якая атрымала назву «краху ідэалаў». Разгубленасць многіх педагогаў і выхавальнікаў відавочная і зразумелая: замест пэўнай, жорсткай, звыклай, дзяржаўна і партыйна ўсталяванай схемы прыярытэтаў выхавання, персаніфікаванай у канкрэтных асобах і афіцыйна прызнаных гераічных тыпажах, не прапаноўваецца нічога такога ж лагічнага і стройнага. І нават больш таго, сумненні выклікаюць не пэўныя персаналіі схемы, што было б яшчэ не так страшна, але самі падыходы і мадэлі, якія сталі за доўгія гады стэрэатыпнымі.

Усведамленне таго, што не дзяржава, а грамадства — крыніца сацыяльнага заказу школе, з'яўляецца важным момантам у пераглядзе парадзігм сучасных падыходаў да выхавання. Жорсткая ідэалагічнасць, арыентацыя на абстракцыі, вельмі далёкія ад рэальнага жыцця, але адэкватныя сітуацыі, калі праклямавалася пабудова «развітога сацыялізму» насуперак усякаму здароваму сэнсу, прыводзілі да таго, што малады чалавек вельмі хутка разумеў, што паміж ідэаламі і рэальнасцю такая ж вялікая дыстанцыя, як паміж камуністычнымі лозунгамі і хранічнай безгаспадарчасцю і ўсеагульнай карупцыяй. Гіганцкія намаганні выхавальнікаў часта былі дарэмнымі: напрамак выхавання не супадаў з вектарам сацыялізацыі. Нават каштоўнасці сапраўдныя, агульначалавечыя, ідэалы гуманізму і дабра, прыклады высокага служэння Айчыне, якія неслі лепшыя педагогі, расцэньваліся як няшчырыя і фальшывыя ў той момант, калі павінны былі прайсці праверку рэальным жыццём. Ілжывасць схемы непазбежна адбівалася нават на самых лепшых яе элементах, падобна таму, як вывучэнне вялікай рускай літаратуры з яе глыбіннай маральна-рэлігійнай рэфлексіяй, філасафічнасцю зводзілася да прэпарыравання вобразаў і сюжэтаў у кантэксце класавага падыходу! Тое ж самае можна сказаць і пра другі прадмет, што мае рашаючае значэнне для выхавання грамадзяніна — айчыннай гісторыі, якая была ператворана ў бясконцы ланцужок класавых бітваў і антаганізмаў. Насуперак усялякай логіцы ідэалогія негатыва, разбурэння, барацьбы, процістаяння разглядалася як найбольш прымальная для выхавання маладога чалавека — самага звычайнага члена грамадства. Пры гэтым немалаважна: увесь пафас барацьбы пераносіўся толькі ў сферу грамадскую, тут прызнавалася і ахвярнасць у імя... і барацьба за... У сферы ж асабістай падобныя ідэалы адхіляліся цалкам: барацьба за кар'еру, за высокія заработкі, за дабрабыт, ахвяры толькі ў імя сям'і — ці можна ўявіць штонебудзь больш чужое нашай сістэме выхавання? Што з таго, што ў так званым «жыцці» рамантыка камсамольскіх будоўляў займала так мала месца, а барацьба за выжыванне мела такое вялікае значэнне для кожнага з нас? Ці значыць гэта, што высокія ідэалы служэння грамадству, якія праклямаваліся, не сапраўдныя і не актуальныя сёння? Вядома ж не. У нашай жорстка стэрэатыпізаванай свядомасці ў ходу маніхейскія схемы: чорнае — дык ужо чорнае, белае — дык аж да белізны горных вяршынь. Палітра жыцця простая і шматколерная адначасова. Разуменне ж данага тэзісу зусім не простае.

Слова плюралізм сёння гучыць ужо зусім звыкла. Агульным месцам сталі і развažанні пра тое, што нашым дзецям трэба будзе жыць менавіта ў плюралістычным грамадстве. Грамадства, дзе будзе вельмі складаная сацыяльная стратыфікацыя ў процівагу зусім міфічнай схеме двух класаў і праслойкі. Акрамя таго — гэта грамадства, дзе не будзе адной пануючай ідэалогіі, адной найбольш прыярытэтнай сістэмы палітычных поглядаў. Значыць, выхаванне ўменне чалавека ісці на кампраміс — умова будучай стабільнасці грамадства. «Кансенсусная свядомасць», назавём яе так, пачынаецца тады, калі ўсведамляецца непахісны пастулат: палітычныя, ідэалагічныя прыхільнасці — другасныя. Яны могуць мяняцца на працягу жыцця, могуць трансфармавацца ў нешта прама процілеглае пачатковаму варыянту. Ніякай трагедыі ў гэтым няма. Нязменныя толькі галоўныя прынцыпы маралі, што складаюць

(Заканчэнне на 7-й стар.).

У верасні 1991 года («Голас Радзімы», №№ 38, 39) былі надрукаваны два артыкулы Міколы Іванова пад агульнай назвай «Вызваленне ці вайна!». Прысвечаны яны былі важнай і балючай падзеі ў нашай гісторыі — так званаму вызваленню Заходняй Беларусі ў 1939 годзе і далучэнню яе да Беларусі Усходняй. Аўтар паставіў мэту паглядзець праўдзе ў вочы і адказаць шчыра на пытанне: што ж адбылося з намі ў 1939 годзе! Што гэта было: вызваленчы паход Чырвонай Арміі, каб ратаваць заходніх беларусаў, ці неаб'яўленая вайна з Польшчай, на якую напала фашысцкая Германія!

З наступнага нумара мы пачынаем друкаваць яшчэ некалькі артыкулаў гэтай серыі, у якой Мікола ІВАНОЎ аналізуе, што дало тое вызваленне беларускаму народу. Таму і назва артыкулаў гучыць крыху інакш — «Вызваленне ці няволя!».

НА ВЫШЭЙШЫМ УЗРОЎНІ

## ПАДПІСАНА ПАГАДНЕННЕ З КІТАЕМ

**У Пекіне прайшлі афіцыяльныя перагаворы паміж урадавай дэлегацыяй Рэспублікі Беларусь, якую ўзначальваў Старшыня Савета Міністраў РБ Вячаслаў Кебіч, і ўрадавай дэлегацыяй Кітайскай Народнай Рэспублікі на чале з прэм'ерам Дзяржсавета КНР Лі Пэнам.**

**Адбылася ўрачыстая цырымонія сустрэчы высокага госця з Беларусі, у гонар яго быў дадзены артылерыйскі салют. Горача вітаючы візіт урадавай дэлегацыі Беларусі, Лі Пэн асоба адзначыў, што яна з'яўляецца першай дэлегацыяй такога ўзроўню, якая наведала Кітай «пасля развалу Савецкага Саюза і ўтварэння на яго тэрыторыі шэрагу незалежных рэспублік».**

**Міністр замежных спраў Беларусі П. Краўчанка і намеснік міністра замежных спраў Кітая Цянь Цзэнпэй падпісалі пагадненне аб устанаўленні дыпламатычных адносін між дзвюма незалежнымі дзяржавамі на ўзроўні паслоў, хаця дзеля гэтага беларускай дэлегацыі прыйшлося пайсці на кампраміс, каб пераадолець бар'еры з-за Тайваня.**

**Старшыня Камітэта па знешніх эканамічных сувязях Рэспублікі Беларусь В. Радкевіч і міністр знешніх эканамічных сувязей і знешняга гандлю КНР Лі Ланьцын падпісалі ўрадавае пагадненне аб гандлёва-эканамічным супрацоўніцтве паміж дзвюма краінамі.**

**Пагадненнем прадугледжана, што абодва бакі будуць садзейнічаць працягламу і стабільнаму развіццю двухбаковых эканамічных і гандлёвых сувязей і ствараць для гэтага спрыяльныя ўмовы. Яны будуць таксама падтрымліваць эканамічныя кантакты, кіруючыся прынцыпам роўнасці і ўзаемнай выгады.**

*«Нас, беларусаў, на высокіх пастах у паліцыі і ва ўрадзе, на жаль, няма. Калі гаварыць сур'ёзна і адкрыта, дык трэба сказаць, што наша эміграцыя малая і слабая. Старэйшая працоўная эміграцыя для нас прапала. Беларусы-каталікі запісаліся ў палякі, беларусы праваслоўныя сталі расейцамі. Беларускасць захоўвае толькі малодшая, пасляваенная палітычная эміграцыя. Высокіх пазіцыяў у амерыканскім грамадстве мы не маем, хаця некаторыя працуюць ва ўладзе на ніжэйшых пастах, бо добра ведаюць палітычную сітуацыю Беларусі, гісторыю, беларускую мову. Беларусы народ спакойны і не так залазілі ў палітыку, як іншыя: палякі, украінцы.*

*Эміграцыя дапамагчы Беларусі практычна зможа мала. Мы, новая эміграцыя, маленькія і слабыя. Сярод нас няма багачоў, банкіраў, але ёсць здольныя, высокакваліфікаваныя спецыялісты, якія ахвотны дапамагчы беларускаму ўраду. У нас ёсць маладыя вучоныя ў розных галінах, эксперты па камп'ютэрах, менеджэрству, эканоміцы, банкаўскай справе, якія маглі б быць кансультантамі ў розных галінах гаспадаркі. Наш абавязак — знайсці такіх людзей, якія маглі б прыехаць у Беларусь і падзяліцца сваімі ведамі і вопытам. Да гэтай пары з увагі на палітычную сітуацыю многія беларусы з эміграцыі не кантактаваліся з Бацькаўшчынай. Зараз на Беларусі многае мяняецца. Калі эміграцыя пачне адчуваць, што Беларусь сапраўды становіцца беларускай дэмакратычнай дзяржавай, калі будзе можна свабодна прыехаць у Беларусь, не баючыся, што павесяць ярлык калабаранта з нацызмам, тады можна будзе спадзявацца на дапамогу».*

*Васіль МЕЛЬЯНОВІЧ, кіраўнік Беларуска-амерыканскай рэспубліканскай федэрацыі ў ЗША.*

НОВАБУДОЎЛІ НА ВЁСЦЫ



**«Маладзёжным» названы невялікі пасёлак на ўскраіне цэнтральнай сядзібы калгаса «Рассвет» імя Арлоўскага, таму што жыве ў ім больш за 70 маладых сямей, якія пабудавалі жыллё сваімі сіламі. Жыллёвая праблема для рассветаўцаў паўстала найбольш востра пасля таго, як асноўныя сілы калгасных будаўнікоў былі накіраваны на ўзвядзенне цяпліц, цэхаў падсобных промыслаў, перапрацоўчых вытворчасцей, якія прыносяць калгасу значны прыбытак. Для ўзнаўлення жыллёвага будаўніцтва на праўленні вырашылі выдзяляць зямельныя ўчасткі пад індывідуальныя забудовы ўсім, хто мае ў іх патрэбу. А калгас узяў на сябе забеспячэнне іх будаўнічымі матэрыяламі, якія выдаюцца калгаснікам у крэдыт. Балазе ў «Рассвеце» ёсць свой цагельны завод, цэхі па вырабу фарбы, абліцовачных пліт, жалезабетонных вырабаў, сталярная майстэрня.**

**А каб новыя дамы не парушалі генеральнага плана забудовы цэнтральнай сядзібы, праектна-будаўнічае бюро калгаса прапанавала маладым будаўнікам некалькі праектаў двух- і трохпавярховых катэджаў. Да вясны гэтага года праўленне калгаса вырашыла выдзеліць яшчэ 50 участкаў пад індывідуальнае будаўніцтва. Так што навасёлаў у «Маладзёжным» пасёлку Мышкавічаў прыбавіцца.**

**НА ЗДЫМКУ: цёпла і ўтульна ў пяціпакаёвым доме загадчыцы дзіцячага кафэ калгаса «Рассвет» Алы ЦМЫГ. Са сваімі сынамі Сашам і Жэням яна рыхтуецца да прыёму гасцей.**

ДЗЕЛАВЫЯ ВІЗІТЫ

## «УСХОДНІ РАЁН ПЕКІНА»

**Намеснік генеральнага дырэктара кітайскай дзяржаўнай карпарацыі «Усходні раён Пекіна» Лю Чанюн наведаў Мінск у пошуках узаемавыгаднага супрацоўніцтва з беларускімі прадпрыемствамі.**

**Мы хочам прыцягнуць кітайскіх прадпрымальнікаў укладваць сродкі ў беларускую эканоміку, заявіў Лю Чанюн. Наша прадпрыемства можа прапанаваць беларускаму рынку пухавікі, красоўкі, прадметы мастацтва—увогуле шырокі пералік тавараў, пачынаючы ад шырспажыву, заканчваючы тэлевізарамі, а таксама прадуктамі.**

**Кітайскія камерсанты плануюць нават адкрыць у Мінску кітайскі рэстаран і некалькі магазінаў.**

**На беларускім рынку іх цікавяць прадукцыя са шкла, музычныя інструменты, абутак і скураныя вырабы.**

ПУНКТ ПОГЛЯДУ

## ЦІ ВЕРНЕЦЦА ГАРБАЧОЎ

Прэзідэнт Гарбачоў пайшоў у адстаўку. Па сутнасці, на шахматнай дошцы палітыкі Садружнасці для яго каралеўскай фігуры не застаецца месца.

Ён ужо даўно нагадваў пасажыра, які пастаянна спазняецца на перасадку з-за таго, што ў яго назапасілася занадта многа палітычнага скарбу, з якім не хапіла сіл своечасова расстацца. Гістарычнае рашэнне аб'яднацца ў Садружнасці было прынята без яго.

Сёння многія маюць права папракаць Гарбачова ў маруднасці, у занадта тонкім пляценні «карункаў», якія прывялі яго да асабістай трагедыі Фароса. Выказваецца ў цэлым справядлівае меркаванне аб тым, што яму быў сэнс пайсці за кулісы раней. Гэта дазволіла б, на думку аналітыкаў, забраць з сабой у гісторыю больш выгадны палітычны багаж, які мог бы яму спатрэбіцца.

Але каб зразумець маруднасць Гарбачова, трэба ўспомніць, што ўсё яго жыццё прайшло ў калідорах вышэйшай улады і ён не ўяўляў сябе без яе. Трэба ўспомніць, што ўлада генеральнага сакратара КПСС, якая ў значнай меры сфарміравала палітычныя густы Гарбачова, па сваім маштабе значна перавышала ўладу любога сусветнага прэзідэнта ці манарха. Фактычна гэта была ўлада дыктатара. І гэта не магло не адбіцца на псіхалогіі Прэзідэнта. Многія памылкі Гарбачова апошніх гадоў, яго няздольнасць адаптавацца да новага балансу палітычных сіл у краіне, знайсці сваё месца ў новай рэальнасці вынікаюць менавіта з гэтага імперскага вопыту.

Каб своечасова прыняць правільнае рашэнне, Гарбачову не хапіла далучнасці да палітычнай мудрасці буйных гістарычных фігур сусветнай палітыкі. Генерала дэ Голя, напрыклад, які ў крытычны для сябе момант адышоў у цень, пакінуўшы сябе «ў распараджэнні нацыі». Можна ўспомніць і прыклад У. Чэрчыля...

Тым не менш шанцы на яго вяртанне ў вялікую палітыку, думаю, маюцца. Краіна ўступае ў перыяд працяглай нестабільнасці, і нават самыя ўдалыя палітычныя канструкцыі могуць рухнуць пад цяжарам эканамічнага крызісу.

Але калі Гарбачову суджана будзе вярнуцца, гэта, безумоўна, будзе іншы Гарбачоў, чым той, да якога мы прывыклі. Як гэта ні сумна ўсведамляць, але эра «дэмакратычнага рамантызму», з якой было звязана імя Гарбачова, мінула. Дэмакратыя, што дала слабыя парасткі на руінах таталітарызму, ужо сёння выяўляе свае межы. Нават мінскія рашэнні, якія большасць аналітыкаў лічаць разумнымі і своечасовымі, хочам мы гэта прызнаваць ці не, прымаліся недэмакратычнымі метадамі. У памятнай Нобелеўскай лекцыі Гарбачова ёсць, між іншым, і такія словы: «У гэтай краіне на працягу стагоддзяў усё вырашалася ў рэшце рэшт насіллем. І гэта наклала цяжка змываемы адбітак на ўсю «палітычную культуру». Цікавае прызнанне, асабліва калі разумець, што і сам Гарбачоў—частка гэтай культуры і гэтага палітычнага вопыту.

Як бы там ні было, Міхаіл Гарбачоў ужо ўвайшоў у гісторыю СССР і сусветную гісторыю як буйнейшы рэфарматар XX стагоддзя. Менавіта з ім будзе звязана памяць аб дэмакратычным пераломе ў краіне. Ён пахаваў паняцце «халодная вайна», ён разбурыў Берлінскую сцяну, вызваліў Усходнюю Еўропу ад камунізму, ён увёў у нашай глуханямой краіне паняцце «галоснасць» і дазволіў сказаць усю жахлівую праўду пра савецкі таталітарызм.

Палітыкі і журналісты яшчэ многа будуць пісаць аб «памылках Гарбачова». Так, яны былі, нават недапушчальныя. Але многія памылкі Гарбачова, асабліва яго маруднасць у правядзенні рэформ, былі «запраграміраваны» — і яго ўласным таталітарным мінулым, і таталітарнай спадчынай краіны. У той жа час сваім мужным процістаяннем націску гэтай спадчыны ён вызваліў савецкага чалавека ад пракляцця камуністычнай дыктатуры і даў адчуць смак свабоды. Крытыкам Гарбачова прыйдзецца таксама ўспомніць, што на тым адрэзку гісторыі, калі на вачах ва ўсіх рушыліся прынцыпы, інстытуты «савецкай улады», ён імкнуўся надаць пераходу ад таталітарызму да дэмакратыі канстытуцыйныя, негвалтоўныя формы. У цэлым яму гэта ўдалося.

**Вячаслаў КОСЦІКАЎ.**

УСЁ ЗА ДОЛАРЫ

**Магазін сумеснага савецка-нямецкага прадпрыемства «Бела Трэдзінг» адкрыўся ў Брэсце непадалёку ад пагранічнага пераходу «Варшаўскі мост». Ён добра аснашчаны і неўзабаве будзе працаваць кругласутачна. Цяпер тут прапаноўваецца пакупнікам каля дзвюх тысяч назваў тавараў — аўдзіа-відэаапаратура, абутак, адзенне, парфюмерыя і многае іншае. Гандаль ідзе ажыўлена, нягледзячы на тое, што прадаецца ўсё за долары.**



**НА ЗДЫМКУ: у гандлёвай зале.**

ДАПАМОГА

## НА БЕДНАСЦЬ

**У сувязі з падаражаннем харчавання і праезду ў грамадскім транспарце выканком Мінскага абласнога Савета народных дэпутатаў устанавіў штомесячныя кампенсацыйныя выплаты для работнікаў сацыяльна-культурнай сферы. З 1 студзеня дадаткова 160 рублёў у месяц будуць атрымліваць спецыялісты, абслугоўваючы і тэхнічны персанал, заняты ў ахове здароўя, адукацыі, сацыяльным забеспячэнні, ва ўстановах фізкультуры і спорту.**

**Калектыў рэдакцыі газеты «Голас Радзімы» выказвае глыбокае спачуванне супрацоўніцы рэдакцыі БАНДАРЭНКА Таісіі Сяргееўне з прычыны напаткаўшага яе гора— смерці МАЦІ.**

*НА РАЗДАРОЖЖЫ*

# У КАЛГАСЕ ДОБРА ЖЫЦЬ?..

У ВЫХАДНЫ дзень пад Каляды прыйшлося ехаць з Маладзечна ў Валожын. На аўтобуснай дапамог старэнькай бабулі падняцца на прыступкі абшарпанага «ЛАЗа», сеў побач з ёю. Па дарозе разгаварыліся.

Гасцявала бабуля ва ўнучкі ў Маладзечне, цяпер ехала яшчэ да адной—кіламетраў за пятнаццаць ад горада. Добрым словам успамінала сваіх родзічаў і раптам заявіла, што не ведае, дзе прыйдзецца век дажываць: хоць і добра ў сваіх — адзенуць і накормяць, але ж не хачу, маўляў, замінаць.

Бабулю я крышачку ведаў. Некалі быў у саўгасе «Яхімоўшчына», тут, непадалёку ад Маладзечна, зазірнуў у бровар (той самы, дзе працаваў Янка Купала), у дом састарэлых. Там і жыла гэта бабуля.

— Калі не хочаце са сваякамі, то чаму з дому састарэлых збеглі?—спытаўся я ў сваёй спадарожніцы.

— А што ж рабіць? — адказала тая. — Усе гавораць: калгасы і саўгасы хутка раскідаюць. Значыць і дому састарэлых не стане. Некуды ж трэба галаву прыхіліць.

— Я маладзейшы і то спадзяюся, што калгас мяне перажыве,—кінуў рэпліку пасажыр, які сядзеў за намі.— Пачула звон, а не ведаеш, адкуль ён: збіраеш плёткі...

Той пасажыр працягваў бурчэць, а мне падумалася: «Каб жа гэта былі толькі плёткі!» Нядаўна зайшоў у выдавецтва «Беларусь» і стаў сведкам размовы рэдактара аднаго з аддзелаў з аўтарам рукапісу. Супрацоўнік выдавецтва пераконваў аўтара выкінуць главу аб развіцці калектыўных гаспадарак і замяніць яе апісаннем «шырокага ўкаранення» ў сельскай мясцовасці фермерства. Аўтар рукапісу не згаджаўся. Маўляў, рана хаваць калгасны лад жыцця, фермерства ж пакуль робіць нясмелыя крокі. Рэдактар настойваў на сваім. У рэшце рэшт аўтар вымушаны быў забраць свой рукапіс.

Масіраванае наступленне на калгасы і саўгасы становіцца з кожным днём усё больш настойлівым. Гібель ім прадказваюць не толькі такія бабулькі, як мая знаёмая з «Яхімоўшчыны». На старонках газет, часопісаў, на экранах тэлевізараў выступаюць акадэмікі, вучоныя, якія наракаюць на калектыўны лад жыцця за пустыя паліцы ў магазінах, дэфіцыт прадуктаў харчавання. Часам гэтыя выступленні гучаць ледзь не ва ультыматыўнай форме: патрэбна неадкладна разбурыць калгасы і перадаць усю зямлю сялянам. Не задумваюцца над простай ісцінай, што разбураць заўсёды лягчэй, чым будаваць.

Насцярожвае яшчэ адно. Гэтыя вучоныя прапаноўваюць свае мадэлі арганізацыі заможнага жыцця ў сельскай мясцовасці, седзячы ў крэслах высокіх сталічных устаноў. А знаёмства іх з працай на зямлі зводзіцца хіба што да практыкі вядзення ўласнай гаспадаркі на пяці сотках асабістай дачы непадалёку ад горада. Не ўлічваюць сённяшняй сітуацыі на вёсцы. А яна там вельмі складаная.

Не хачу, каб нехта абвінаваціў аўтара гэтага артыкула ў кансерватызме. Маўляў, чаго чапляцца за старое? Сыты народ ужо па самае горла гэтым калектыўным жыццём. У нейкай ступені згодны, бо і сам сыты ім. Дзесяткі два гадоў таксама пуп рваў на «квітнеючых калгасных нівах». Толькі не трэба ўсё і паўсюль падганяць пад адзін капыл.

Не ўдаючыся ў асабістыя развражанні, што лепей —калгасны лад жыцця ці фермерства, я пабываў у многіх гаспадарках Маладзечанскага, Валожынскага, Пухавіцкага, Навагрудскага і іншых раёнаў Беларусі, дзе гутарыў з радавымі калгаснікамі, кіраўнікамі гаспадарак. Праводзіў быццам бы анкетаванне, задаючы ўсім адно і тое ж пытанне: вы за калгас ці за фермерства? Прачытаў нямала спрэчных матэрыялаў на старонках газет і часопісаў, якія пішуць на сельскую тэматыку. Прывяду некалькі адказаў на гэтую анкету.

**Міхаіл КУМЕЦ, аграном калгаса «Усход» Маладзечанскага раёна.**

— Быў пэўны перыяд, калі наша гаспадарка, як бы мовіць, скочвалася ў бездань. Не хапала людзей, добрых спецыялістаў, узнікалі канфлікты з кіраўніцтвам наконт нізкіх заробкаў.

Сітуацыя змянілася, калі ў Маладзечне стаў дэфіцыт... прадуктаў харчавання. Не здзіўляйцеся. Да нас у прамым сэнсе слова паваліў народ. Спачатку нясмела—каб крышачку падзарабіць грошай ці атрымаць за сваю працу натурай: гароднінай, бульбай, мясам. Пасля многім у нашым калгасе спадабалася—засталіся жыць, далі ім добраўпарадкаваныя дамы. Нямала сельгаспрадукцыі прадаём рэспубліцы.

Цяпер уявім такі малюнак. Кіраўніцтва калгаса аб'яўляе аб самаліквідацыі гаспадаркі. Прапаноўвае людзям стаць фермерамі. Што тут пачнецца! Па-першае, не ўсім хопіць зямлі — а гэта сваркі, канфлікты. Па-другое, сотням людзей (а яшчэ памножце на колькасць іншых калгасаў рэспублікі, якія могуць аказацца ў такім жа становішчы!) прыйдзецца шукаць новае месца жыхарства. І гэта цяпер, калі такі дэфіцыт будаўнічых матэрыялаў, калі значная частка тэрыторыі забруджана ў выніку чарнобыльскай аварыі... Не, ад дабра дабра не шукаюць. Не лічу, што калгасны лад тое, што нам трэба, але пакуль ён задавальняе.

Агранома падтрымлівае і **механізатар калгаса імя Чапаева Пухавіцкага раёна Мікалай ШЧЭРБА**, які выступіў у абласной газеце «Мінская праўда»:

— Па сваёй прыродзе калектыўная гаспадарка добра ўпісваецца ў рыначную эканоміку. І калі да гэтага часу ў нас адсутнічаюць у дастатковай колькасці прадукты харчавання, то прычыну варта шукаць не ў форме ўласнасці, а ў тых перакосах і памылках, што былі дапушчаны ў кіраванні сельскагаспадарчай вытворчасцю. Усім вядома, як «зверху» спускаліся разнарадкі, што і калі сеяць, убіраць. Селяніну заставалася выконваць «каштоўныя» ўказанні. Так і завялі аграрны сектар у тупік, з якога цяпер цяжка выбрацца.

Перакананы: калектыўныя гаспадаркі і сёння валодаюць магутным вытворчым патэнцыялам, які яшчэ не раскрыты.

Далей Мікалай Шчэрба гаворыць аб тым, што ніхто з яго аднавяскоўцаў не хоча стаць фермерам. Робіць заключэнне: фермер у цяперашніх умовах не зможа выжыць. Чаму? Па-першае, з-за адсутнасці тэхнікі—калгас і той не заўжды можа купіць сабе трактар ці машыну. Так, тэхніка неймаверна падаражала. Не зможа набыць гаручае для яе, не зможа набыць будаўнічыя матэрыялы... Гэта «не зможа» можна працягваць бясконца. Патомны хлебароб выказаў трывогу за лёс зямлі, якую часам аддаюць пад фермерскія гаспадаркі гараджанам. Не таму, што яны не маюць жадання працаваць на ёй, а таму, што не маюць вопыту, пэўных навыкаў.

А мне да гэтых слоў хацелася дадаць яшчэ вось такі факт. Узяў адзін мой знаёмы мінчанін участак зямлі на Лагойшчыне і давай «удабраць» яе хімічнымі ўгнаеннямі. Агуркі ды памідоры, вядома, урадзілі на славу. Выгадна збыў на рынку сваю гародніну мой знаёмы, яшчэ пахваляўся расшырыць свой участак—старшыня мясцовага калгаса абяцаў дапамагчы.

Вось і падумалася: не дай Бог такіх фермераў мець, якія з-за яго вялікасці рубля будуць табе да стала атруту пастаўляць.

Вельмі цікавай мне падалася гутарка з сябрам дзяцінства, **знатным механізатарам калгаса «Камунар», што на Навагрудчыне, Канстанцінам ГНІЛЯКЕВІЧАМ.** Ён, як і Мікалай Шчэрба, адстойвае калгасны лад жыцця. І ў сваіх доказах звярнуў увагу на вельмі важную дэталь.

— У нашым калгасе нямнога маладых засталося. Усё больш людзей сталага ўзросту. Ну, раскідаецца калгас, маладзейшыя стануць фермерамі (зямлі ў гаспадарцы хопіць!), добра наладзяць справу. Змогуць і сябе забяспечыць, і нешта на рынак завезці. Але ж мы не глядзім на другі бок медаля: куды падзецца тым сарака-шасцідзесяці працэнтам старых, што ёсць літаральна ў большасці вёсак Беларусі. Яны ж цяпер не ў стане апрацоўваць нават свае прысядзібныя ўчасткі. Сёння калгас пакуль забяспечвае іх усім неабходным: палівам, аказвае грашовую дапамогу, выдзяляе малако, мяса, арганізоўвае нагляд за нямоглымі.

Нейкі чытач зробіць заўвагу: што вы агітуеце за гэтыя калгасы, прыводзіце прыклады з моцных гаспадарак, няўжо не бачыце, як разбураюцца яны, абанкручваюцца?

Вядома, палітычная і эканамічная сістэма былога Саюза, хаос, неразбярыха, падзенне выканаўчай дысцыпліны цяжка адбіліся на сельскай гаспадарцы рэспублікі. Сваю жыццядзейнасць і стойкасць паказалі ў гэтай сітуацыі моцныя калгасы і саўгасы, якія і раней забяспечвалі прадукцыяй не толькі сябе, але і значную колькасць яе прадавалі дзяржаве. Гэта знакамітыя «Рассвет», «Савецкая Беларусь», ды і ўпамянёны «Усход», што, як кажуць, будуць у добрым здароўі квітнець яшчэ доўгія і доўгія гады.

Затое сёння рэзка пагоршылася становішча ў слабых і нават сярэдніх гаспадарках. Узяць, для прыкладу, калгас імя Горкага на Валожыншчыне, што не на апошнім месцы ў раёне. Але некалькі дзён, праведзеных тут, пакінулі ў мяне дваякае ўражанне. З аднаго боку, уразіла раздзяленне сялян на багатых і бедных (не трэба баяцца такіх тэрмінаў!). Скажам, давялося бачыць, як нямоглая, старая жанчына прапалвала дзялянку буракоў ля вёскі Лінькі.

— Вам бы ўжо не грэх і адпачыць, — не вытрымаў я.

— Што зробіш, няма каму працаваць. Выдзеліў брыгадзір дзялянкі буракоў і на старых, і на маладых. Калі б я адмовілася, то ён не даў бы каня апрацаваць соткі ля хаты...

Хаця якія коні ў той гаспадарцы! Бачыў (другі малюнак), як жанчына (назвалася Марыяй Віктараўнай) цягнула на сабе каляску з дровамі з лесу. Чаму ж не ўзяла каня?

— А коней амаль няма,— адказала жанчына. — Калі ж дапросішся ў брыгадзіра, то не знойдзеш упражы, калёсаў... Усё парасцягвалі, пакралі. І ніхто не пакараны, не адказвае за гэта.

У той жа час па вёсках раз'язджалі на добрых конях сяляне. Менавіта—сяляне. Людзі яшчэ ў добрай сіле, якія прыдбалі асабістых коней, а нехта і спісаны трактар у калгасе для сябе набыў. Толькі вось парадокс: у калгасе працаваць не хоча (вось чаму сяляне, а не калгаснікі, я лічу!)

Нейкі чытач скажа: бачу ў гэтым праявы фермерства, нічога дрэннага тут няма. Давайце не пагодзімся. Бо фермерствам пакуль і не пахне.

Размаўляў я ў Ліньках з дзядзькам Казікам. Ён мае добрага каня, жыве крэпенька. Колькі, пытаюся, маеце зямлі? Столькі, колькі трэба, каб жыла ў добрым дастатку сям'я і дзецям яшчэ дапамагчы. І ўсё. Якое ж тут фермерства! Гэта логіка паасобніка. Для сябе, яшчэ для дзяцей. А для дзяржавы?.. Не, такія не пракормяць рэспубліку.

Падумалася, калі пакідаў гаспадарку: тут бы і на самай справе развярнуцца фермерам. Узяць зямлю—яе хапае, узяць у арэнду ці выкупіць калгасны статак, бо сёння няма каму за ім даглядаць належным чынам, ды і развярнуцца на поўную магутнасць.

Толькі гэта — пакуль мары. Бо фермерства з вялікай цяжкасцю прабівае сабе дарогу.

Нядаўна прачытаў у друку адкрытае пісьмо старшыні Беларускай сялянскай партыі Я. Лугіна Генеральнаму пракурору Рэспублікі Беларусь М. Ігнатовічу. Справядліва абураецца старшыня, што жадаючы стаць фермерам не можа атрымаць ні добрай зямлі, ні фінансавай дапамогі. Ёсць раёны, дзе заявы жадаючых стаць фермерамі нават не хочуць разглядаць. Ці не таму колькасць фермерскіх гаспадарак можна сёння пералічыць літаральна на пальцах?! Вось прыклад. У Магілёўскай вобласці іх усяго 117, у распараджэнні якіх крыху больш за тры тысячы гектараў. Тут бы хоць сябе пракарміць.

А пакуль галоўная стаўка ў забеспячэнні сельскагаспадарчымі прадуктамі робіцца на калгасы. Але, падкрэсліваю, на моцныя. Іх жа недастаткова, каб рабіць пагоду. Калектыўныя гаспадаркі ў такой форме, якія існуюць сёння, як паказвае шматгадовая практыка, ужо зжываюць сябе. І тут патрабуюцца карэнныя перамены. Вельмі шкада, што канкрэтных і рашучых мер кіраўніцтва рэспублікі не прымае. Чаму? Ці не таму, што не бачыць выйсця, шляхоў да выпраўлення сітуацыі, якая склалася на вёсцы. Ад гэтага пакутуе і селянін, і гараджанін, ад гэтага і пустыя паліцы магазінаў у гарадах.

**Яўген ТУРАЙКЕВІЧ.**



**Не знікла, як многія іншыя дробныя хутары, з твару зямлі мястэчка Юзэфава, што ў Глыбоцкім раёне. Зберaглі яго Слаў Ананько з жонкай Таццянай. Многа працы ўклалі яны ў адраджэнне закінутага хутара. Адрамантавалі хату, падсобныя пабудовы. Вырашылі паспрабаваць стаць фермерамі. І атрымалася: цяпер у гаспадарцы Ананько 12 свіней, 3 бычкі, цёлачка, карова і 15 авечак. Нягледзячы на цяжкасці станаўлення, глыбоцкі прадпрымальнік летась здаў дзяржаве 800 кілаграмаў мяса ў чыстай вазе.**

**НА ЗДЫМКУ: Слаў АНАНЬКО на сваім падворку.**

**Фота А. ТАЛОЧКІ**

# УДЗЯЧНАЯ ПАМЯЦЬ ФІНАЎ

Кожны пражыты дзень усё большай і большай адлегласцю аддзяляе нас ад часін Вялікай Айчыннай, што, аднак, не тушыць полымя дыскусій і палемікі сённяшняга дня наконт перагляду яе гісторыі. Ды якая б трактоўка ёй ні давалася пад сцягам пошуку ісціны, тым мільёнам і мільёнам, хто сваімі касцьмі вымасціў шлях да перамогі над фашызмам, роўна як і тым, хто і цяпер аплаквае іх, ад гэтага нямнога палёгкі. Тым больш, што і гаротнай удавеплакальшчыцы ой як часта невядома, у якім баку знаходзіцца тая дарагая магілка, вятры якога краю яе абвяваюць.

Але калі-нікалі ўспыхне, праpве заслону забыцця ўдзячная чалавечая памяць, высвеціць невядомыя дагэтуль старонкі мінулай, сквапнай да крыві сусветнай бойні. Так, як гэта здарылася нядаўна ў Фінляндыі.

...У 1941—1942 гадах побач з мястэчкам Лянгельмякі знаходзіўся канцэнтрацыйны лагер для савецкіх ваеннапалонных, якія вялі тут нітку чыгункі ад горада Орывесці да Ярмса. І гінулі. Мова вердыкту смерці, паводле дакументаў Ваеннага архіва, не падлягае ні эмоцыям, ні падрабязнасцям: «агульная слабасць», «заражэнне крыві», «туберкулёз», «агнястрэльнае раненне». Хавалі салдат тут жа непадалёку ад баракаў на лясной паляне.

Пасля вайны ўрад Фінляндыі ўвекавечыў памяць усіх загінуўшых на тэрыторыі краіны савецкіх воінаў узвядзеннем на месцах масавых захаванняў (такіх на зямлі Суомі 70, дзе ляжыць 18 тысяч 300 чалавек) бетонных абеліскаў. Адзін з іх стаяў на памянёнай паляне... На ім быў адзіны надпіс «Тут пахаваны 177 савецкіх ваеннаслужачых».

Высветліць іх сапраўдную колькасць, імёны паставіў сабе на мэту старшыня «Рускага клуба» суайчыннікаў з горада Тамперэ Барыс Верыкаў. У выніку вялікай архіўнай працы ён адшукаў і ўзнавіў 260 прозвішчаў пахаваных тут байцоў. Падтрымку ж у гэтай высакароднай справе ён знайшоў з боку мясцовых органаў кіравання, грамадзян былога Саюза, што выкладаюць ва універсітэце Тамперэ, і фіна Пека Кяхяра.

Стаіць і цяпер той абеліск, але ўжо ў новай якасці—як цэнтральны стрыжань нядаўна выбудаванага (і ўжо адкрытага) з дапамогай асацыяцыі «Родина», маскоўскіх архітэктараў, завода імя І. А. Ліхачова, новага мемарыяльнага ансамбля, які акружаюць чатыры трохметровыя гранітныя пілоны. Пілоны, дзе выбіты прозвішчы пакутнікаў, увенчаны крыжам са званом. Сярод тых, хто знайшоў апошні прытулак пад гэтым мемарыялам, ёсць 39 нашых землякой-беларусаў, у асноўным людзей маладых на тыя часы. Мы публікуем іх спіс у такой форме, у якой ён дайшоў да нас. Можа хтоколечы з чытачоў «Голасу Радзімы» знойдзе ў ім свайго блізкага, сваяка ці проста знаёмага, які лічыцца дагэтуль «без вестак згінуўшым». (Нехта ж з іхніх сем'яў павінен жыць на Беларусі!) А знайшоўшы, захоча наведаць камуну Лянгельмякі. Калі так здарыцца, напішыце аб тым старшыні «Рускага клуба» горада Тамперэ спадару Барысу Верыкаву. Ягоны адрас такі:

B. Verikov,
Annalankatu, 4,
33710. Tampere, Finland.



P. S. З прычыны таго, што матэрыял Ваеннага архіва Фінляндыі напісаны на рускай мове, мы захоўваем яе пры надрукаванні спіса.

# СПИСОК

## ВОЕННОПЛЕННЫХ, ПОХОРОНЕННЫХ В КОММУНЕ ЛЯНГЕЛЬМЯКИ (ФИНЛЯНДИЯ)

| ФАМИЛИЯ ИМЯ ОТЧЕСТВО | ГОД РОЖДЕНИЯ | МЕСТО РОЖДЕНИЯ |
|---|---|---|
| АБРАМЧУК Василий Андреевич | 1918 | Пинская обл. |
| БЕЛЫЙ Адам | 14.05.1918 | Виленская обл. |
| БЕЛЫЙ Николай Дмитриевич | 1909 | Полесская обл. |
| БОНДАРЕВ Адам Венславович | 1920 | Витебская обл. |
| БУБНИКОВИЧ Дмитрий Тимофеевич | 8.11.1897 | Гродненская обл. |
| БУЛАНЧИКОВ Андрей Матвеевич | 23.09.1916 | Витебская обл. |
| ВАСИЛЕВИЧ Кузьма Григорьевич | 1902 | Витебская обл. |
| ГАЛУШКО Сергей Тимофеевич | 17.09.1919 | Барановическая обл. |
| ГРИШКОВ Николай Степанович | 31.09.1921 | Гомельская обл. |
| ДУЛЬСКИЙ Андрей Григорьевич | 1918 | Пинская обл. |
| ДЮКА Алексей Иванович | 20.07.1917 | Могилевская обл. |
| ЗЕНКОВ Кирилл Зиновьевич | 18.04.1905 | Витебская обл. |
| КВАТЧЕНКО Григорий Павлович | 1908 | г. Витебск |
| КИСЛИЦКИЙ Василий Акимович | 25.12.1921 | Полесская обл. |
| КОМЗОЛОВ Иван Алексеевич | 29.08.1921 | Гомельская обл. |
| КОПТЕЛОВ Василий Иванович | 1905 | Могилевская обл. |
| КРУГЛОВ Сильвестр Тимофеевич | 4.08.1911 | Минская обл. |
| КРЮКОВ Михаил Иванович | 2.11.1907 | Витебская обл. |
| ЛАРЧЕНКО Иван Митрофанович | 6.01.1911 | Гомельская обл. |
| ЛАХЛИН Николай Иванович | 1917 | Минская обл. |
| ЛЕОНЧИК Петр Матвеевич | 1918 | Барановическая обл. |
| МАЗОК Антон Анисимович | 17.01.1910 | Могилевская обл. |
| МАРЧЕНКО Василий Абрамович | 1.09.1921 | Гомельская обл. |
| МИЦКЕВИЧ Иван Мартынович | 10.01.1909 | Минская обл. |
| МОРОЗКО Алексей Корнеевич | 1920 | Полесская обл. |
| ПАТРОНЧИК Федор | 5.06.1907 | Могилевская обл. |
| ПАРХИМОВИЧ Петр Лукьянович | 25.06.1920 | Минская обл. |
| ПИТАЛЕНКО Петр Спиридонович | 21.07.1915 | Витебская обл. |
| ПРИГОЖИЙ Осип Климович | 1909 | г. Витебск |
| РОГОВСКИЙ Иван Андреевич | 8.05.1920 | Минская обл. |
| РЫЛАЧ Николай | 08.1919 | Пинская обл. |
| САЗУТА Стефан Лазаревич | 1919 | Пинская обл. |
| СИДОРОВ Федор Гаврилович | 1912 | Пудожский р-н |
| СОЛОМОВИЧ Иосиф Федорович | 4.04.1907 | Могилевская обл. |
| ТРОФИНЮК Никита Павлович | 15.04.1903 | Брестская обл. |
| ЧИЖЕВСКИЙ Константин Игнатьевич | 17.10.1918 | Барановическая обл. |
| ШАПОВАЛОВ Владимир Григорьевич | 06.1910 | Гомельская обл. |
| ШЕРШНЕВ Ульян Ларионович | 16.03.1912 | Могилевская обл. |
| ШУРКО ФИЛИПП | 17.08.1912 | Чашинский р-н |



Зімачка-зіма.

# Я ВЫКАНАЎ СВОЙ АБАВЯЗАК

Паважаная рэдакцыя!

Хачу вам паведаміць аб нашай дапамозе беларускім дзецям — ахвярам чарнобыльскай катастрофы.

Я ніколі такімі справамі не займаўся, а ў Новай Зеландыі няма ні беларусаў, ні падобнай арганізацыі. Аднаму ж выканаць такую справу вельмі нялёгка. Але з дапамогай маёй дачкі Тані і вялікай колькасці добрых людзей я выканаў свой абавязак. Мы сабралі 70 тысяч новазеландскіх даляраў і закупілі на іх лекі і іншыя медыцынскія рэчы, якія так патрэбны вашым людзям, і ўсё гэта ўжо адаслалі ў Мінск.

Хачу трохі расказаць, як я пачаў гэтую справу. Калі я атрымаў «Голас Радзімы» № 24 за 13 чэрвеня, у якой надрукаваны Зварот да людзей добрай волі, мы пачалі з таго, што зрабілі досыць многа копій Звароту і разаслалі іх у розныя клубы, арганізацыі і ў новазеландскі парламент. Я атрымаў ад іх адказ з парадай звярнуцца да новазеландска-рускага таварыства. Сустрэўся з прэзідэнтам таварыства спадаром Крыстоферам Кінгам і сакратаром Шырлі Наірн. Яны ахвотна пайшлі насустрач і дапамаглі з вялікім задавальненнем. Я спадзяюся, што ўся гэта дапамога пойдзе на карысць няшчасных, якія трапілі ў чарнобыльскую бяду.

Хай дапаможа ім Бог, а я жадаю ім усім здароўя і шчасця на доўгія гады.

Міхась КАПЫТКА.

Новая Зеландыя.

**Гэтыя нататкі нашага чытача з Лондана Алеся ГАТКОВІЧА — пра падзеі, якія адбыліся пару гадоў назад. Некаму падасца: навошта пісаць пра мінулае, калі многае змянілася на Беларусі. На думку рэдакцыі, асэнсаванне аўтарам уражанняў з пабыту на Радзіме, яго высновы і меркаванні гучаць актуальна і сёння. Спадзяёмся, што беларусы і дома, і за мяжой з цікавасцю прачытаюць ліст нашага суайчынніка з Англіі.**

## ...ПАКУЛЬ БУДУЦЬ ЛЮДЗІ

# МАЕ ЎРАЖАНЬНІ З ПАБЫТУ НА БЕЛАРУСІ

За апошнія два-тры гады шмат аб чым пісалася, паказвалася на тэлевізійных праграмах, дыскутавалася з так званымі «экспэртамі» сёньняшняй перастройкі, дэмакратызацыі, публічнасьці, аб нацыянальным адраджэньні, асабліва ў прыбалтыйскіх дзяржавах, на Украіне, у Арменіі, Азербайджане і Малдавіі. Як жа гэта ўсё выглядае ў сапраўднасьці і ці гэтыя вялікія зьмены адбываюцца на Беларусі? А калі адбываюцца, дык у якой форме і ці маюць яны які-небудзь прагрэс у напрамку асягненьня беларускага нацыянальнага адраджэньня, свае народнае мовы, літаратуры і мастацтва?

Калі б толькі глядзець, слухаць ды верыць тэлевізыйна-дакумэнтальным перадачам і так званым «экспэртам», дык можна было б прыйсьці да нэгатыўнага вываду адносна падзей на Беларусі. Гледзячы на ня так даўную, больш чым гадзіннную дакумэнтальную праграму брытыйскага гісторыка Нормана Стон «Вялікае падарожжа», дык Беларусь яго зусім не цікавіла — як-бы яна і не існавала. Ён пачаў сваё падарожжа з Эстоніі, затрымаўся мімаходам у Латвіі і Літве, дзе ўзяў самалёт і, праляцеўшы над Беларусяй, прызямліўся ў Кіеве. Ці глядзеў ён з вышыні на беларускі краявід з яго абшырнымі лясамі, пушчамі, рэкамі, блакітнымі ўлетку вазёрамі? Сьведама ці нясьведама, але памінуў ён нашу сінявокую, спавітую ўлетку васількамі Беларусь з яе міралюбным і гасьцінным народам.

У жніўні мінулага года я меў магчымасьць адведаць свой родны край не як турыст, але як госьць, прыехаўшы да сваіх родных, у сваю вёску, дзе радзіўся, дзе рос, дзе хадзіў у пачатковую школу, а пасьля, у часе Другой Сусьветнай вайны, паступіў у Маладэчне ў Гандлёвую школу.

Для тых чытачоў, якія ніколі не былі, а мо' нават і ня ведаюць, дзе ёсьць Маладэчна, дык гэта 75 кіламетраў на паўночны захад ад нашай сталіцы — Менска. Дарога з Маладэчна ў Менск займае 1 гадзіну 25 мінут электрычнай чыгункай, якая, трэба сказаць, трымае пунктуальна час і затрымоўваецца на 23 прыстанках. І зноў для тых, хто ніколі ня быў у гэтых мясцінах, трэба ўспомніць, што ў палове дарогі з вакна вагону можна бачыць хатку, якая цяпер сталася народным музэям, дзе жыў і працаваў наш слаўны паэт Янка Купала.

Вязынка для беларусаў — гэта цудоўнае месца, як «Дызнылянд» для амэрыканцаў, якая прываблівае сюды штогод дзесяткі тысяч ня толькі беларусаў і людзей з суседніх рэспублік, але таксама тысячы замежных турыстаў, якія цікавяцца і знаёмяцца з беларускім краявідам, культурай і абычаямі народу... Аб ёй склалася шмат песень, фальклёраў, лягэндаў. І таму ўсё тое, што зьвязана з Янкам Купалам, нам блізкае і так дарагое. Беларускі народ гардзіцца, шануе і захоўвае памяць аб сваім выдатным і ведамым на цэлы сьвет сыне. Не хапае слоў, каб поўнасьцю апісаць маляўнічы краявід прыроды з яе ляснымі пагоркамі, курганамі і рэчкамі, невялікімі вазёрамі, якія мільгаюць прад вачыма, калі пад'язджаем і мінаем Вязынку. У невялікай, але прыгожа ілюстраванай кніжачцы «Вязынка» можна глыбей даведацца пра нашага паэта з маладых яго гадоў, аб яго любові да свайго краю, да свае беларускай мовы.

«Вязынка, — піша аўтар М. А. Чырскі (выдавецтва «Полымя», 1986), — гэта скарбніца, у якую сабраны водар нашых ніў, сенажацяў, лясоў; гэта — летапіс жыцьця народа з яго звычаямі, марамі, імкненьнямі, барацьбой, перамогай. Вуснамі Я. Купалы гаворыць Беларусь», — заканчвае параграф М. А. Чырскі. Прыгожыя словы, як і сама Вязынка. Але хто ведае, што на гэта сказаў-бы Янка Купала, каб ён мог пачуць, што амаль уся Беларусь, а асабліва яе моладзь і інтэлігэнцыя сягоньня гаворыць ня вуснамі яго, а вуснамі Пушкіна і Дастаеўскага.

Вяртаючыся зноў да Маладэчна, варта ўспомніць, што ў мае маладыя гады гэта было невялікае мястэчка, на плошчы якога стаяла таго часу вялікая мураваная з каменя царква. Насельніцтва да вайны не перавышала 5—6 тысяч. Было нешта дзесяць вуліц, тры з іх былі брукаваныя. Апроч царквы было некалькі мураваных будынкаў, як чыгуначная станцыя, насупраць якой стаяў будынак староства, што стаіць і да сёньняшняга дня магчыма як манюмэнт мінуўшчыны. Апроч гэтага ў Маладэчне нічога не пазнаеш. Пазапрошлага году Маладэчна сьвяткавала свае 600 гадоў. «600 гадоў Маладэчну» — гістарычна-эканамічны нарыс паводле ведамага вучонага археолага і гісторыка Беларусі Г. А. Каханоўскага. 120 старонак кніжачкі цікавыя ня толькі зьместам і гісторыяй, але і старадаўнімі будынкамі, замкамі і пячаткамі тагачасных князёў. З невялікага мястэчка Маладэчна вырасла ў вялікі індустрыяльны горад з 16—18-павярховымі будынкамі мадэрнай архітэктуры. Сягоньня Маладэчна налічвае 100 тысяч чалавек. Мае больш за 200 вуліц. Галоўныя вуліцы пакрыты асфальтам, па якіх што некалькі мінут гоняцца перапоўненыя аўтабусы. Усе тратуары шырокія, улетку ўбраныя ў зелень розных дрэў.

У першы тыдзень майго пабыту ў Маладэчне я даведаўся з рэклямы вячэрняй газэты, што тут ёсьць «Беларуская Хатка», адкрытая для ўсіх кожнага чацьвярга да 7-й гадзіны вечара. Я хутка пазнаёміўся з кіраўніком Хаткі — маладым хлапцом Міхасём, які, як пазьней аказалася, хадзіў у тую самую пачатковую школу, што і я ў вёсцы Палачаны. Ён мне хутка расказаў, што ў гэтую Хатку прыходзяць ня толькі маладыя, але і старэйшае грамадзтва. Мэта зборак — беларуская мова, літаратура, мастацтва, а таксама дыскутуюцца і іншыя справы штодзённага жыцьця. Мая сустрэча з кіраўніком «Беларускай Хаткі» адбылася ў яго памешканьні на 7-м паверсе, і дзеля гэтага ён запрапанаваў паказаць мне гэтую Хатку, якая фактычна ёсьць на 5-м паверсе. Міхась адчыніў дзьверы і махам рукі запрасіў мяне ў сярэдзіну. Перш, што кінулася мне ў вочы, гэта вялікая Пагоня. З левага боку партрэт Я. Купалы, з правага — Я. Коласа. На другой сьцяне партрэт М. Багдановіча і шмат іншых беларускіх паэтаў, пісьменнікаў і народных герояў-дзеячоў. Было шмат партрэтаў, краявідаў, апрацованых малярамі - мастакамі сёньняшняга Маладэчна, з якімі я меў гонар крыху пазьней пазнаёміцца і пагутарыць. З вялікім энтузыязмам яны гаварылі аб перабудове, аб беларускім адраджэньні і якія спатыкаюць перашкоды. Бадай, самая галоўная і адначасна балючая гэта абыякавасьць людзей. І дзеля таго прагрэс вельмі павольны.

Наступнага вечара Міхась — кіраўнік Хаткі быў заняты іншымі грамадзкімі справамі, дык мною заапекаваўся малады мастак (таксама Міхась), які паказаў мне сваю студыю і некалькі прыгожых малюнкаў. З вялікім гонарам я атрымаў ад яго адзін малюнак як падарунак у час нашай сустрэчы. Пазьней ён запрапанаваў мне пайсьці на рэпэтыцыю «Кастуся Каліноўскага», якая адбывалася ў клубе чыгункі. Гэта даволі вялікі будынак, які можа памясьціць каля 400 асоб. Рэпэтыцыя ўжо йшла ва ўсю моц, і мы на дыбачках занялі месца, нешта тры крэслы ад рэжысёркі. У часе перапынку я пазнаёміўся з артыстамі і рэжысёркай — вельмі маладой на такое становішча дзяўчынай. Але, нягледзячы на яе маладыя гады, яна была вельмі кампэтэнтная і дамагалася высокай якасьці ад сваіх артыстаў. Нават найменшая драбніца не мінула яе вока ці вуха, калі яна раптам крычала — «Стоп!» У адным месцы, дзе Кастусь Каліноўскі з-пад шыбеніцы гаворыць да беларускага народа і пытаецца: «Каго ты, мой народ, любіш?», у гэтымжа часе артысты-хлопцы і дзяўчаты грамадой выходзяць з-за кулісаў і аднагалосна адказваюць — «Беларусь». Рэжысёрка пакручвае галавою — ёй гэта не падабаецца. Яна пачынае іх сароміць, што ня могуць сказаць аднаго слова так, як належыцца. Артысты, спусьціўшы галовы, ідуць за кулісы мо' ў пяты раз, а я шапчу свайму сябру — Міхасю, што, магчыма, яна зашмат ад іх дамагаецца. Перш за ўсё, гэта аматарскі гурток, а па-другое, каб сказаць гэта слова так, як яна вымагала, трэба сапраўды любіць свой край, свой народ, сваю мову. Калі гэтай гарачай любові няма, яе штучна ў сэрцы людзей ня ўложыш.

Як я ўжо зазначыў, вуха рэжысёркі вельмі чуткае, і яна яшчэ раз крыкнула — «Стоп!». Сабраўшы ўсіх артыстаў на сярэдзіну сцэны і зьвярнуўшыся да мяне, яна папрасіла, каб я паўтарыў тое самае, што гаварыў свайму сябру. Мне крыху стала сорамна, і я зьбіраўся яе перапрашаць, што перарваў яе работу сваім шэптам. Але рэжысёрка — вельмі настойлівая асоба, і з нейкай быццамбы ветлівай усьмешай яна яшчэ раз папрасіла мяне паўтарыць тыя словы. Я безумоўна дагадаўся пра яе тактычна-псыхалягічны падыход і з ахвотаю гэта зрабіў. «Ну дык давайце яшчэ раз пачнём з тэй сцэнкі», — загадала рэжысёрка. Гэтым разам артысты ёй так адказалі, што і сам Кастусь Каліноўскі імі-б ганарыўся. Рэжысёрка глянула ў мой бок і кіўнула галавою ў знак падзякі.

Пасьля рэпетыцыі мы доўгі час яшчэ стаялі на панадворку, любаваліся прыродай і цёплым жнівенскім вечарам. У вясёлай і сяброўскай атмасфэры я павіншаваў «Кастуся Каліноўскага» (зноў Міхася) з яго патрыятычна-драматычнай адозвай да беларускага народу з-пад «шыбеніцы». Гэта адозва, гаварыў я, павінна расчуліць сэрцы найбольшых пэсымістаў ды крануць, як кажа прымаўка, «за жывое», давясьці слухачоў да сьлёз і прышчапіць яшчэ большую любоў да свае мовы, народу і нашага краю. Толькі тады, калі мы пачнём ганарыцца нашымі продкамі і іхным адвечным змаганьнем за лепшую волю, долю, за справядлівасьць, мы сустрэнем лепшае заўтра і зоймем сваё пачэснае месца сярод іншых народаў. Да нашай гутаркі далучыліся два студэнты, з якімі я пазнаёміўся і даведаўся, што яны прыехалі з Менску, каб са мной спаткацца. Гутарка вялася на розныя тэмы: мы раўнялі, параўноўвалі сёньняшнюю адукацыю і яе тэхніку, гаварылі аб іх, студэнцкіх, варунках жыцьця, недахопах, цяжкасьцях, аб самой перастройцы, адраджэньні і што гэта ўсё прынясе нашаму беларускаму народу.

Кожнаму ведама, час у вясёлай кампаніі ляціць без аглядкі, і, каб хоць крыху прадоўжыць наша пешаходнае падарожжа, там-сям мы супыняліся, тады паважная гутарка перапляталася анекдотамі, жартамі, і рэха сьмеху каціласся ў няведамую даль па шырокіх вуліцах Маладэчна.

Калі падыходзілі да таго месца, дзе калісьці стаяла Гандлёвая школа, мае думкі, як тыя нестрыманыя коні, ляцелі ў мінуласьць. І хто ведае, дзе-б яны затрымаліся, каб я не глянуў у бок Міхася-мастака і пад расхрыстаным яго пінжаком ня ўбачыў прышпіленую да кашулі эмблему — Пагоню з надпісам «Жыве Беларусь». Мае коні, якія рваліся з успамінамі ў далёкую мінуласьць, раптам затрымаліся — быццамбы па загаду рыцара Пагоні. Я яшчэ раз глянуў на круглую, дыямэтрам крыху больш ангельскіх 50 пэнсаў Пагоню, і, каб затрымаць сантымэнтальнае падарожжа маладых школьных гадоў, я спытаў Міхася, дзе можна купіць гэту Пагоню, бо я хацеў-бы завезьці некалькі ў Англію як падарак сваім сябрам. Міхась крыху задумаўся, паківаў галавой і адказаў, што, на вялікі жаль, дамаганьні Пагоні перавышаюць іх выраб. І на гэта трэба чакаць даволі доўга. Але прайшоўшы некалькі крокаў, ён затрымаўся, зьняў са свае кашулі Пагоню і, быццам дэкаруючы мяне, прычапіў яе да майго пінжака. Ён моцна пацісnуў маю руку і сказаў: «Ад Міхася-мастака для паважанага госьця з Англіі Алеся». Я яму шчыра падзякаваў, і, каб падтрымаць далейшую гутарку (бо ўспаміны мінуласьці зноў пачыналі мільгаць прад маімі вачыма), я спытаў Міхася, ці гэта тут дазваляецца? На вуснах яго пракацілася нейкая ўсьмешка, і ён адказаў: «Дазваляецца ці не, але, як бачыш, мы яе носім». Пасьля некалькіх хвілін ён з той-жа самай усьмешкай пачаў мне расказваць, што аднойчы і толькі раз затрымаў яго міліцыянер у Менску і загадаў яе зьняць. «Пагоню ці кашулю?» — спытаў міліцыянера Міхась. Той, відаць, не пазнаў жарту і больш паважным і аўтарытэтным голасам загадаў яму зьняць Пагоню. Але, як аказалася, нашага маладога мастака ня так лёгка запалохаць, ён пачаў упірацца ды «таргавацца» з міліцыянерам. Той урэшце здэцыдаваным голасам паўтарыў трэці і апошні раз зьняць Міхасю Пагоню, ды толькі! Але і наш мастак аказаўся таксама «ўпарты» і адказаў міліцыянеру крыху павышаным голасам, што калі думаеш, што можаш зьняць, дык паспрабуй! Той, глянуўшы на Міхася з ног да галавы, махнуў рукою, нешта мармытнуў сабе пад носам, ды, сказаўшы: «Пайшоў ты к чорту» — адвярнуўся і пайшоў... Мне зноў хацелася пацісnуць руку Міхася і сказаць: «Малайчына». Дай Бог, каб у нас было больш такіх Міхасёў і каб яны ніколі ня зводзіліся.

Зьбліжаючыся да канца нашага падарожжа, я яшчэ меў прыемнасьць пазнаёміцца з адным маладым мужчынам, які, як пасьля аказалася, быў журналістам з радыё БССР у Менску. Вымаючы з верхняй кішэні пінжака сваю рэпрэзэнтанцкую картку, ён сказаў, што прыехаў спэцыяльна з Менску, каб зрабіць са мной інтэрв'ю, запісаць гэта ўсё. «Чаму-ж не», — адказаў я. Але паколькі была ўжо позняя ноч (а я таксама тут госьць), я мусіў спытацца сваёй пляменьніцы. Яна як заўсёды была вельмі сымпатычная, хутка прыбрала нам асобны на гэта пакой і ветлівым голасам запрасіла журналіста зайсьці. Зачыніўшы за намі дзьверы, журналіст выняў магнітафон, і мы пачалі размову. Наша гутарка не была фармальнай або падрыхтаванаю загадзя. Усё гаварылася, як кажуць, «проста з моста». Праз нейкіх 30 мінут ён выключыў магнітафон (магчыма, каб даць мне адсапнуцца) і заўважыў, што прайшло больш як 40 год, а я добра валодаю беларускай мовай. Таксама яго дзівіла, што праз увесь час нашага інтэрв'ю я ні разу ня глянуў на якія-небудзь запіскі, а ўсё гаварыў з галавы. Ці я не пішу што-небудзь у газеты або журналы, урэшце спытаў ён мяне. «Так, — адказаў я. — Будучы яшчэ вучнем 5-га класу пачатковай школы ў Палачанах, я быў адказным рэдактарам «сьценнай газэткі», а пасьля ў Маладэчне я належаў да гуртка маладых паэтаў і пісьменьнікаў». І я тут прадэклямаваў яму некалькі сваіх вершаў. Але магчыма, найбольшым маім дасьведчаньнем у напрамку літаратуры і мастацтва была праца з Хведарам Ільяшэвічам у так званым пераходным лагеры Д. П. у Нямеччыне ў Ватэнштэце. Там штотыдня мы наладжвалі літаратурна - мастацкія вечары ў форме «жывой газэткі», дзе мае вершы і фэлетоны былі вельмі папулярныя. На вялікі жаль, мой «настаўнік» і супрацоўнік Хведар Ільяшэвіч — паэт, пісьменнік і магістар права загінуў трагічна ў аварыі ў даволі маладых гадох свайго жыцьця ў 1948 годзе.

У наступных словах нашага далейшага інтэрв'ю журналіст з радыё, як-бы ня думаючы, спытаў: «Я ведаю, што ў часе Другой сусьветнай вайны вы вучыліся ў Маладэчне ў Гандлёвай школе. Але якім чынам вы апынуліся ў Нямеччыне? Добраахвотна, ці вас вывезьлі прымусова?» Я, добра падумаўшы, адказаў: «Жывучы некалькі год пад «сталінскім сонцам» вялікага прымусу, на вываз не было патрэбы». Ён выключыў свой магнітафон і падзякаваў мне за мой час, а таксама, адыходзячы, перапрасіў маю пляменьніцу за нявыгадны час яго прыбыцьця.

Пляменьніца пачала падрыхтоўваць вячэру (хаця было ўжо бліжэй раніцы), а я тым часам выйшаў на вэранду, каб падыхаць сьвежым паветрам і даць сэрцу крыху супакою. Вакол мяне была абсалютная начная цішыня, і неяк маркотна стаяў я адзін і ўглядаўся ў далёкае сіняе неба. Там-сям у вокнах яшчэ блішчэлі з-за фіранак малыя аганькі. Вецер лёгенька павяваў і калыхаў лісткі дрэў, якія стаялі ўздоўж тратуару, спусьціўшы свае змучаныя кароны ад штодзённай сьпякоты.

(Заканчэнне будзе).

# БІРУТА

## АПАВЯДАНЬНЕ

**Міхась КАВЫЛЬ**

— А, вось і тэхнікум... Такі-ж ён, як і тры гады назад, і не такі: чужы нейкі. Сьцены тыя самыя, але ў сьценах — другія незнаёмыя студэнты. Няма там ні Біруты, ні Янкі... Нікога ўжо няма. І шыльда ўжо ня тая. Няма на ёй «імя Усевалада Ігнатоўскага». Няма й самога Ігнатоўскага...

А воньдзека й клюб... Мільгаюць у вокнах чырвоныя, белыя майкі. Можа на «Сопках Манжурыі» танцуюць? Не, фізкультурай займаюцца. Там і я калісь скакаў праз «кабылу», падцягваўся на кольцах... Хто там цяпер зь імі займаецца? Пестрык, хіба? Добры быў настаўнік.

У калідоры змрочна й прахалодна. Цішыня. Чуваць толькі голас настаўніцы ў клясе, што насупраць. Хто-ж гэта? Ці не Алеся Александровіч часам? Не, гэта не Алесін голас, грубы нейкі. У Алесі голас, як у салаўя, цененькі ды пераліўны. Асабліва тады, як чытала паэму свайго брата Андрэя «Цені на сонцы...» Сапраўдныя яны, цені на сонцы. Асабліва Андрэй... Дзьмухні, дык і перакуліцца...

А хто гэта ў канцы калідору каля вакна стаіць?.. Дзед Лабанок хіба? Хто-ж яшчэ?.. А можа тая сьледчая Надзежда Лавіцкая? Па новую ахвяру прыйшла, чакае, як калісь мяне чакала. Смуглявая, чорнакосая, вочы, як у ведзьмы... І ў чорным паліто... Прывід нейкі, а не жанчына. «Пойдзем са мною». Толькі два словы й сказала. І павяла...

Скрыпіць паркетная падлога пад нагамі. Чалавек каля вакна пачуў, мабыць, што нехта йдзе, адвярнуўся ад вакна, углядаецца... Ён гэта, дзед Лабанок...

— Добры дзень, дзедка Лабанок!

—Добры, добры, калі ня хлусіш!..

Усё з жартамі, як і раней. Трасе казьлінай бародкай, стрыжэ, як сарока хвастом, рудымі вейкамі, працягвае худзенькую дрыготную руку:

— Пазнаяце мяне?..

— Пазнаю й не пазнаю... Старасць, як кабыла хвастом, памяць адбіла. Ды на табе матроская шынэль — з далёкага карабля ты сюды прыплыў...

— Так, вы ўгадалі: з Далёкаўсходняга «карабля»... Ва Уладзівастоку гэтую шынэль купіў на таўкучцы, каб канцлягерным бушлатам людзям вочы не мазоліць... Я — Алесь Нядоля... Памятаеце?..

— А як-жа, як-жа!.. Пятрусь Грэчыц, Янка Язэпчык, Алесь Нядоля... Тры мушкацёры... Так, так...

Ня вельмі рады, мабыць, такому госьцю: узяў з падваконніка званок, паглядае на гадзіньнік, што бубніць над намі на сьцяне.

«Трэба сьпяшаць, запытаць пра Біруту, бо яшчэ возьме ды ўцячэ. З такімі, як я, цяпер найлепшыя сябры ня вельмі цырымоняцца. А ён што? Тэхнікумаўскі сторож, і я для яго, як і ён для мяне — чужыя. А ён Біруту, напэўна, ведае. Ён шмат каго й чаго ведае...»

— Дзедка Лабанок, даруйце!.. Бачу, вы зьбіраецеся йсьці званіць на перапынак, дык затрымліваць вас ня буду. Хачу толькі запытаць у вас пра адну студэнтку. Былую студэнтку пэдтэхнікуму. Вы яе напэўна ведаеце. Звалі яе Біруta... Жмудзінка яна па нацыянальнасьці. Дзьве іх тут і было толькі жмудзінкі: Біруta Гаруньціс і Анжэліка...

— О, Біруta?.. Біруta?.. Невялічкая, кругленькая, як гурочак?.. З залатымі косамі на ўсе плечы?.. Як-жа, я яе добра ведаю. Такую прыгажуню ды ня ведаць?.. Яна й цяпер часамі сюды прыходзіць. Хваліўся мне сакратар камсамолу з трэцяга курсу... Як-жа бо яго?.. Ага. Дзяркач... Дык хваліўся, што Біруta да яго на спатканьне прыходзіць... Брэша ён. Я ня веру, каб яна такога нягеглага пакахала. Цябе — гэта іншая рэч...

— Дзедка Лабанок! Шчыра дзякую за навіну! Бывайце! Калі ўбачыце Біруту, дык перадайце прывітаньні... Я сьпяшаюся на цягнік...

— Добра, перадам... Да пабачэньня!.. Ага да гэтага самага...

— Наўрад, дзедка, ці пабачымся... Наўрад...

...«Дзесяць хвілін да чацьвертай. Заняткі закончацца а чацьвертай... Хоць-бы пасьпець. Яна цяпер ужо на трэцім курсе і, напэўна, на дзённай зьмене. Хутчэй у Музычны! Варушыся, Алесь! Шчасьце тваё не за гарамі, а за ўзгоркам... Шчасьце, а, можа, і няшчасьце? Не, толькі шчасьце! Яна мяне яшчэ не перастала кахаць. Я ўпэўнены, што не. А пра замуж чаму напісала? Баялася. Так, толькі дзеля гэтага. Яна ня дурная дзяўчына, о, не! І Дзяркача гэтага яна не кахае. Нягеглы, як дзед Лабанок кажа,— раз. Камсамолец — два. Камсамольца яна кахаць ня можа. Ненавідзець — толькі. Яна яго, калі праўда, што спатыкаецца, за грамаадвод мае: як-ніяк, а ён іхны чалавек. Калі што, можа й заступіцца... А можа й сапраўды выйшла замуж... Цьфу!.. Хоць-бы ўжо веніка якога ці мятлу знайшла, а то дзяркача. Сэрца дзяўчыны, як тое марское дно: не разгледзіш, што там робіцца. За два зь лішнім гады яна маё, можа, і імя забылася, а ня тое што. Задзярэ свой кірпаты носік і гаварыць не захоча. Няхай толькі паспрабуе. Я маю й на гэта лекі. Яна думае, я нічога не ведаю, Ведаю й скажу: «Біруta, не ганарыся вельмі, што маеш Дзяркача... Ён табе ня пара. Ён — камсамолец, а ты... Хто ты?.. Ты — дачка жмудзінскай шпіёнкі...» Так і скажу. Плакаць будзе, бедная, так, як тады на Камуністычнай. Не, ня буду гэтак казаць. Шкада яе. Ды не яе віна, што нас разлучылі. Хіба яна сабе вораг, ня хоча жыць, як жонкі камуністаў ды камсамольцаў? А якое жыцьцё яна будзе мець са мною, з чалавекам дна, у якога ніякай будучыні, ніякага сягоньня. Не, ня буду ёй перашкаджаць. Няхай ходзіць да Дзяркача, няхай кахае. Я толькі пастаю каля дзьвярэй, пагляджу на яе, і ўсё. А калі пабачыць і прызнаецца, тады... Што я ёй скажу тады? А... скажу пра матулю. «Біруta,— скажу,— я ведаю, чаму ты тады плакала на Камуністычнай вуліцы. Памятаеш?.. Я тваю матулю бачыў... Ты ведаеш дзе?.. Праз шэсьць месяцаў сьледства мне абвесьцілі прыгавор Маскоўскай калегіі. Каб жывым давесьці ў канцлягер на тую будоўлю камунізму, паслалі мяне на лёгкую працу — табельшчыкам у швэйную майстэрню пры турме. За гэта плацілі шэцьсотграмовай «пайкай» хлеба й лішняй «манашкай» супу. Чытаючы прозьвішчы работніц швэйнай майстэрні на табельным лісьце, я спаткаў прозьвішча Гаруньціс... Адным словам, падумаў, што гэта напэўна нехта з вашых. Ну, і хутка даведаўся...»

Не скажу ёй праўды. Не скажу, што яе матуля не падобная была да чалавека, да жывога чалавека, а да нябожчыцы. Нашто яе крыўдзіць, і так моцна пакрыўджаную гэтымі людаедамі. Скажу, што матуля яе выглядала ня горш за другіх жанчын, што была вельмі радая, калі даведалася, што хутка пойдзе на этап, і казала: «Ну, цяпер я ўпэўненая, што вярнуся да сваіх дачушак. У канцлягеры хоць паветра сьвежага можна будзе надыхацца ўдоваль». А ці дапамагло ёй тое паветра? У яе-ж ужо тады, як зь ёй пазнаёміўся, хусьцінка, якой выцірала вусны пасьля кашлю, уся ў чырвоных плямах была... Білі, казала, і яе, каб прызналася, што для Летувіскай разьведкі весткі вайсковага характару зьбірала. Наўрад ці пабачыць яна сваіх дачушак. Біруta ўжо, напэўна, ведае. Трэба будзе асьцеражліва ў Біруты спытаць, ці піша матуля. Калі ня піша, дык болей і не напіша. Яна й да канцлягеру, бадай, не даехала. Я нашто малады і ў дзесяць разоў за яе здаравейшы, а пасьля сарака дзён язды ад Менску да Нікольску-Усурыйску, як адчапілі на станцыі дзьверы таго «цялятніка», як дыхнула ў твар тое сьвежае марознае паветра, дык ня ўтрымаўся на нагах, пакаціўся, як падкошаны, у сьнег... Дзякуй таму чарнігаўскаму ўкраінцу Івану Тарану, да лягеру дапамог дайсьці!.. А дзе-ж ёй, цені чалавечай, такую пакуту перанесьці?..

— Гэй, Алесь, ідзі!.. Біруta!..

Хто-ж гэта кліча? Нібы Янкі Язэпчыка голас пачуўся?.. Але дзе-ж ён? Нідзе нікога няма. Вуліца бязьлюдная. Можа з трамваю хтось праз вакно клікнуў? Не, трамвай даўно ўжо празьвінеў... Што-ж гэта са мною ўжо сталася? Галодныя галюцынацыі пачынаюцца, ці што, як у таго Івана Тарана?.. Казаў, іду ў полі мяжою, каб дзе якую шчавіну знайсьці, углядаюся і раптам чую голас бабкі Грыпіны: «Іван, а Іванко, ідзі галушкі ісьці». Завярнуўся, каб да хаты ісьці, галушкі есьці, аж успомніў, што ўчора бабку Грыпіну жоўтым пясочкам засыпалі... Ня можа яна мяне гукаць, здалося мне толькі... Ад голаду так здалося... А і я-ж ад учарашняга дня нічога яшчэ ня еў. Учора на Беларускім вакзале ў Маскве папрасіў у нейкага камандзера, што з жонкай у буфэце закусваў, каб даў мне недаедзеную булачку зь яго стала ўзяць, «галубком на вуліцы раскрышыць», дастаў рубля й даў... Добры чалавек, каб яго ніякая куля ня трапіла, трапіўся. На тым рублі й сягоньня яшчэ трымаюся. Але язвачка, як казаў лягерны канавал «лепком», ужо пачынае ў страўніку варушыцца, есьці захацела. Таму й пачынае галюцынацыі выдумляць: «Алесь, ідзі... Біруta...» Трэба неяк заткнуць ёй рот, каб ня крычала. Але чым заткнуць? Нават і крошкі ніякай у кішэні няма. Можа, у Біруты папрашу, калі ўбачу. Але-ж сорамна неяк у яе прасіць. Не, ня буду. Перацярплю неяк. На станцыі ў каго-небудзь папрашу. Біруta й сама, нябось, галодная, што яна мне дасьць?

— Алесь, ідзі!.. Біруta!..

Ну вось ізноў тая язвачка не дае спакою... Але, пачакай?.. Пачакай?.. Хто-ж гэта там, наперадзе, праз вуліцу насустрач мне йдзе?.. Падобная да Біруты... Дальбог-жа, падобная... І яшчэ зь ёю якаясь асоба. Сястра хіба?.. Вось табе й яшчэ адна галюцынацыя, зрокавая ўжо. Адна слыхавая, а другая зрокавая... Ёсьць яшчэ й нюхавая, але ў мяне яшчэ да гэтага не дайшло... «Трэба павярнуць голаў у бок ад прадмету, які табе пакажацца, і паглядзець ізноў. Калі прадмет зьнікне, знацца, у цябе галюцынацыя. Калі ня зьнікне, галюцынацыі няма...» Гэта я дзесьці чытаў, у падручніку па псыхалёгіі ці дзе, ня памятаю. Трэба праверыць на практыцы. Ну, вось, павяруў голаў управа, цяпер буду глядзець на «прадмет»... Ідуць — Біруta і... сястра Міля, мабыць... Вось і гістарычнае спатканьне, вырашальнае спатканьне. «Что нам грядущий день готовит?» Ня дзень, а хвіліна, адна толькі хвілінка. І якое-ж ліха гэтую Мілю яшчэ прынесла? Я яе сароmеюся, нават баюся неяк. Каб Біруta была сама, тады-б... Але пачакай! Ці-ж то Біруціна сястра, такая, як цыганка? У Мілі-ж такія залацістыя косы, як і Біруты. Дый ідуць яны неяк ня так, як заўсёды хадзілі: Біруta заўсёды трымала Мілю пад руку, і яны ніколі моўкна ня йшлі, а бурказалі штосьць, як дзьве галубкі. А цяпер—Біруta йдзе наперадзе, а тая крыху адзаду. А якая Біруta стала прыгожая. Яна глядзіць на мяне... Чаго-ж я стаю, як укопаны? Ногі ня слухаюцца неяк... Нясьмелы я ўсё-ж...

— Алесь!.. Алеська, дарагі!.. Даруй за апошні ліст... Даруй за ўсё!.. То ня праўда, што я пісала... Ня праўда!..

Гэта Біруta гукае... Што яна сказала?.. Чаму сястра штурхнула яе ў плечы? Чаго гэтак вылупіла на мяне вочы?.. О, дык гэта-ж не сястра!.. Я пазнаў яе, суку. Гэта-ж тая сьледчая ГПУ Надзежда Лавіцкая, якая й па мяне прыходзіла ў тэхнікум і вяла надвячоркам на папярэдні допыт. А Янку Язэпчыка, як казаў, яна й без «папярэдняга» арыштавала й вяла... О, Біруta, Бірутачка! Прапала ты ні за грош. Не дапаможа ўжо табе й той камсамолец... Але чаго-ж я стаю? Трэба дапамагчы Біруце вырвацца ад гэтай ведзьмы. Дапамагчы — чым? Маю недзе складаны ножык... Куды-ж я яго запхнуў? А вось ён, мая халодная зброя... Лёгка ён лез у цьвердую скарынку чорнага хлеба, палезе і ў сьпіну гэтае гадзюкі. Даганю і ўсаджу... Ня будзе болей хадзіць па Менску і лавіць ды вадзіць нявінныя ахвяры. Алеж яна зоркая ды ўзброеная, сука, ды не адна ходзіць — наводдалі за ёю назіраюць апэратыўнікі. Вунь адзін такі, мабыць, тыпус набліжаецца. Не, нічога я ёй ножыкам не зраблю. А чым? Як?.. Млосна неяк стала... Галава кружыцца... — Біруta!.. Біру!..

— Гэй, гражданін!.. Чаго крычыш, цішыню нарушаеш? П'яны?..

— Не, я ня п'яны... Нядобра мне... Нядобра...

— П'яны!.. А нож на каго нагатаваў?.. Пайшлі са мною!..

1965.

Заканчэнне. Пачатак у № 4.

# АДКРЫЕМ КУЛЬТУРЫ ГРАНІЦЫ

Для вельмі ўдзячнай справы аб'яднали свае намаганні міністэрствы культуры дзвюх суседніх дзяржаў — Польшчы і Беларусі. Створана сумеснае прадпрыемства па рэстаўрацыі, турызму і гандлю «Рэнаватум», што азначае — адраджэнне. Няўжо на месцы руін у вялікіх і малых гарадах і сёлах нашай рэспублікі зноў паўстануць зняважаныя некалі, як і сама гісторыя нацыі, храмы і палацы?

— Не адразу. Але наш асноўны партнёр — вядомая ў свеце польская фірма «Пеказет» (ПКЗ) — ужо больш як сорак гадоў вяртае былое хараство помнікам старадаўнасці ў 19 краінах, — гаворыць першы намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь Уладзімір Гілеп. — У нашай краіне майстэрства польскіх рэстаўратараў ацанілі ў Маскве і Санкт-Пецярбургу, Рызе і Таліне. Супрацоўніцтва з майстэрнямі фірмы выгадна яшчэ і таму, што яны валодаюць добрымі тэхналогіямі, маюць дакументацыю на помнікі, размешчаныя на тэрыторыі Беларусі, перадаюць нам спецыяльнае абсталяванне. Акрамя таго, працуючы побач з унікальнымі майстрамі, нашы рэстаўратары змогуць пераняць лепшы сусветны вопыт.

Але, як вядома, у нашай рэспубліцы ёсць Галоўнае ўпраўленне па рэстаўрацыі помнікаў культуры, якое атрымала статус самастойнай установы. Значыць, «Рэнаватум» становіцца фірмай-канкурэнтам. І, на маю думку, гэта добра. Толькі жывое спаборніцтва ва ўмовах рынку зрушыць з месца справу рэстаўрацыі ў Беларусі.

Набліжаецца двухсотгоддзе з дня нараджэння Адама Міцкевіча, таму першыя свае работы новае прадпрыемства пачне на помніках, звязаных з яго імем. Ужо рыхтуецца праект рэстаўрацыі дома Міцкевічаў у Завоссі Баранавіцкага раёна. Будуць аднаўляцца і іншыя маёнткі, звязаныя з імёнамі людзей, якія аднолькава належаць польскай і беларускай культурам.

**Лідзія ПЕРАСЫПКІНА.**

Прэм'ера балета «Карсар» у пастаноўцы народнага артыста РСФСР П. Гусева адбылася ў Дзяржаўным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета Рэспублікі Беларусь. Музычны кіраўнік і дырыжор спектакля — заслужаны дзеяч мастацтваў РСФСР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі рэспублікі А. Анісімаў.
НА ЗДЫМКУ: сцэна са спектакля.

Фота У. МЯЖЭВІЧА.



# КРЫЗІС ІДЭАЛАЎ І ІДЭАЛЫ ЭПОХІ КРЫЗІСУ

(Заканчэнне.
Пачатак на 1-й стар.).

аснову чалавечай асобы. Іншымі словамі, няважна, хто ты: ліберал, манархіст, кансерватар, радыкал, абы чалавек быў прыстойны і маральны, здольны «дараваць» другому іншыя, так не падобныя на твае палітычныя і ідэйныя сімпатыі. Думка вялікага Вальтэра: «Мне глыбока непрыемны ваш пункт гледжання, але я гатовы аддаць сваё жыццё за ваша права яго выказаць» — ключавая для сённяшняй педагогікі. Тым больш, што ў нашым грамадстве ў ходу зусім іншае: пастаяннае высвятленне таго, хто і што пісаў, гаварыў, рабіў у эпоху «развітога сацыялізму», а цяпер вось і ў час путчу. І ўсё гэта пад акампанемент крытыкі ў адрас тых, хто змяніў свае погляды і ўстаноўкі. Давайце будзем вучыць дзяцей таму, што выбар правільнай пазіцыі аднойчы і на ўсё жыццё — лёс вельмі нямногіх шчаслівуцаў, людзей ва ўсякім разе незвычайных. Для большасці ж абывацеляў (гэта слова таксама мае патрэбу ў рэабілітацыі!) характэрна мяняць свае погляды ў залежнасці ад змен рэальнасці. І няма ў тым крыміналу! Больш непрыемна, калі чалавек законсерваваны ў нейкіх аджыўшых ідэях, гатовы пакласці сваё і, не дай Бог, чужыя жыцці за іх увасабленне. Такім чынам, важнейшая парадыгма выхавання сённяшняга дня фармулюецца проста: выхаванне ўсведамлення першаснасці і непахіснасці маральных каштоўнасцей і другаснасці палітычных і ідэйных прыхільнасцей. Перманентная грамадзянская вайна павінна нарэшце скончыцца. Тут, вядома, вялікая роля належыць рэлігіі, культуры, без якіх немагчыма гуманізаваць грамадства. Усведамленне данага тэзіса актуальна менавіта для сённяшняга дня, калі палітызацыя грамадства ўзрастае з дня на дзень, а ўзровень палітычнай культуры, на жаль, не ўзрастае. Пры гэтым будзем помніць, што першая частка формулы: выхаванне на агульначалавечых каштоўнасцях — задача архіцяжкая. Значна лягчэй пазначыць чыйсьці вобраз па схеме: прыналежнасць да палітычнай арганізацыі плюс характарыстыка «герой» і сказаць: «Рабі жыццё з яго»,— чым растлумачыць, ды так, каб укараніўся на ўсё жыццё, асноўны прынцып — «Не забі». Апошняе патрабуе ад педагога куды большых душэўных намаганняў, культуры ды і проста эрудыцыі, нягледзячы на ўяўную прастату задачы. **Прыйшоў час зразумець, што гэта славутае «крушэнне ідэалаў», якое выклікае стогны смутку ў грудзях педагогаў, ёсць зусім нармальная з'ява дэідэалагізацыі.** Ламаюцца ж ідэалы жорстка ідэалагізаваныя і палітызаваныя, а вечным і непахісным (дзякуй Богу) нічога не пагражае. Аднак як далёка нам да разумення гэтай банальнай ісціны!

Яшчэ адной важнейшай парадыгмай выхавання з'яўляецца вельмі тонкі баланс паміж індывідуалізмам і сацыяльнасцю, здольнасцю чалавека на ўдзел у грамадскім жыцці, стаўка на выхаванне індывідуальнасці, якая сёння павінна быць рашаючай, паколькі толькі яркая індывідуальнасць здольна самарэалізавацца ва ўмовах НТР, калі час сумесных капанняў катлаванаў даўно ў мінулым. Добра было б, каб адназначнае сцверджанне прыярытэту калектыўнага над асабістым таксама апынулася там жа. Давайце прызнаем, што дыктат калектыву — горшы з усіх відаў таталітарызму, фактычна гэта вяртанне да першабытна-абшчыннага ладу. Асоба свяшчэнная і вольная, і ніякая сацыяльная група не можа быць вышэйшай за яе. Будзем помніць гэта ва ўмовах, калі сёння на змену нашаму любімаму класаваму падыходу набліжаецца прыярытэт нацыі над асобай ці якой-небудзь іншай сацыяльнай групы (напрыклад, культурнай). Але выхаванне індывідуальнасцей павінна спалучацца абавязкова з выхаваннем умення чалавека быць членам калектыву. І тут вялікую ролю могуць адыграць розныя грамадскія, агульнашкольныя мерапрыемствы, зразумела, вызваленыя ад ідэалагічнага акаймавання.

Іншы бок данай праблемы якраз і ёсць выхаванне «кансенсуснай свядомасці», пра што ўжо ішла гаворка вышэй і без якой немагчыма гаварыць аб стабільнасці грамадства, паколькі менавіта гэта ўсведамленне ў сукупнасці з устаноўкамі на ўменне жыць і працаваць у калектыве з'яўляецца гарантам супраць непрымірымасці і несумяшчальнасці індывідуальнасцей. Гэтаму ж павінны служыць і гуманізацыя, і гуманітарызацыя школы, па-за якой немагчыма выхаваць па-сапраўднаму культурнага і талерантнага чалавека.

Важнейшым прыярытэтам выхаваўчага працэсу сёння з'яўляецца арыентацыя на фарміраванне працоўнай этыкі, этыкі справы. Пры гэтым абстрактныя схемы, якія праслаўляюць працоўны гераізм у імя і з нагоды, пастаноўку на вахту ў гонар і г. д., павінны саступіць месца цвярозаму і рацыянальнаму ўсведамленню таго, што агульны поспех немагчымы без поспеху асабістага, а краіна багатая і шчаслівая тады, калі багатыя і шчаслівыя яе грамадзяне. У поўнай адпаведнасці з устаноўкамі вялікага Вебера можна было б сказаць, што нам неабходна выхаванне пратэстанцкай этыкі, той самай этыкі працы, выратавання і апраўдання чалавека справай, якая так многа значыла ў эпоху першапачатковага накаплення капітала. Асабісты поспех, кар'ера, уменне зарабляць (зразумела, усё гэта ў рамках закона) — без гэтых паняццяў немагчыма ўявіць сабе фарміраванне апоры любога грамадства — сярэдняга класа. Прагматызм сучаснай моладзі, яе імкненне да добрага, забяспечанага жыцця, якія так засмучаюць многіх педагогаў, уяўляюцца з данага пункту гледжання, наадварот, вельмі аптымістычнымі: грамадству патрэбны людзі, якія жадаюць дабіцца поспеху, зрабіць кар'еру, разбагацець. Задача выхавацеля — сфарміраваць на базе гэтых установак усведамленне неабходнасці сумленнай і вельмі ўпартай працы, сапраўднага культу ведаў і ўменняў як сродку дасягнення забяспечанага жыцця. Задача цяжкая, тым больш, што ва ўмовах першапачатковага накаплення капіталу, у якіх мы цяпер жывём, крымінальныя шляхі набыцця багацця могуць быць вельмі прыцягальнымі і даступнымі. Аднак, з другога боку, да таго часу, пакуль у грамадстве пануючымі будуць зайздрасць і нянавісць у адносінах да свайго больш удачлівага суседа, да таго часу наўрад ці можна будзе гаварыць аб прыярытэтнасці этыкі справы, а значыць, у рэшце рэшт і аб працвітанні краіны. Іншымі словамі, арыентацыя моладзі не на працу на славу Радзімы, не на выкананне харчовай праграмы, а на нармальную сумленную працу і дасягненне поспеху і багацця для сябе і сваёй сям'і — залог таго, што нарэшце ў нас з'явіцца столькі ж прадуктаў, колькі іх ёсць, напрыклад, у Галандыі, дзе, не ведаючы аб высокім сваім прызначэнні, фермеры сціпла кормяць сябе і сваю краіну, абяцаючы накарміць і нашу, калі іх вельмі аб гэтым папросяць і, вядома, заплацяць.

І яшчэ адно прагматычнае меркаванне: арыентацыя на работу і кар'еру для моладзі — гэта арыентацыя на грамадзянскі мір у краіне. Прадпрымальнікі, камерсанты і дзелавыя людзі не будуць паддавацца інтаксікацыі нацыяналізму, шавінізму, яны ўстаюць нават супраць залішняй палітызацыі, якая прымае ў краіне пагражаючыя маштабы. Значыць, небяспека грамадзянскай вайны, на жаль, вельмі пакуль актуальная, будзе зведзена на нішто менавіта прагматызмам і дзелавітасцю сучаснай моладзі. Бо нават жа ў раздзіраемым супярэчнасцямі Ольстэры, як толькі змаўкаюць выбухі бомбаў, на кампаніях, магазінах і пабах вывешваюцца плакаты — «Busines as usu» («Бізнес як звычайна...»). І менавіта гэта ў рэшце рэшт стрымлівае няшчасную краіну ад скатвання ў бездань. Мы павінны, мы проста абавязаны ПАСПЕЦЬ выгадаваць пакаленне, якое зможа пісаць на сваіх плакатах падобныя словы, а не лозунгі смерці, насілля і нянавісці.

**Галіна ШАТОН,**
**кандыдат філасофскіх навук.**

## З НОВЫХ ВЕРШАЎ

**Яўгенія МАЛЬЧЭЎСКАЯ**

### СЛЯПЫЯ

Куды ішлі сляпыя столькі год,
Што нават пазнасіліся ўсе
боты!
Каб нехта на хаду іх замяніў,
Яны б ішлі і сёння, як раней.

Але ніхто не думаў
замяняць,
Таму і супыніліся сляпыя.
Ураз пачуўшы босымі нагамі,
Што ўсе яны ў крыві і ў
мазалях.

За галаву схапіліся ў адчаі,
Бо раптам скаланула
прасвятленне,
І ўбачылі над прорваю
дарогу,
Якой ішлі бясконца ў нікуды.

***

Дарога да сябе —
Пакутная дарога.
Дарогай праз сябе
Яна гады ішла.
І ўсё ж такі дайшла —
Збылася перамога.
Дарога праз сябе
Да сэнсу давяла.

І голас мой акрэп,
І узмужнела слова,
І хісткая душа
Ва ўвесь паўстала рост.
Мне справа да ўсяго,
Што робіцца наўкола.
Мой клопат і мой боль —
Да будучыні мост.

Дарога да сябе —
Учуць народа сэрца.
Свабодна уздыхнуць
Свабоднымі грудзьмі.
І ведаць, што народ
Зняверaны прачнецца
І назаве сябе
У рэшце рэшт людзьмі.

**Вольга САБЫНІЧ**

***

Што сказаць пра боль,
не адчуўшы боль!
Ці смачны хлеб,
дзе не ў меру соль!
Якіх у прызнанні
чакаеш ты слоў!
Што я скажу,
не спазнаўшы любоў!..

***

Я з дня у дзень пералівалася ў цябе
Ды пульс маёй крынічкі аслабеў.
Баюся, што не прычакаць імгнення,
Каб сведкай быць твайго перапаўнення...

***

Так хочаш піць —
Вады б глыток!
Схіліся —
я крынічка каля ног.

Ты занядужаў,
Не дай бог!
Я — зелле
ад тваіх знямог.

Няўмольны вечар
У вокны сее змрок —
Я свечачка —
маленькі аганёк.

А калі збочыш
Са сваіх дарог,
Я — зорачка,
каб ты вярнуцца змог.

***

Даруйце мне маю
адкрытасць.
Як вас яна усхвалявала!
Здалася я на вашу літасць.
Са мной такога не бывала.

І хоць мой розум заімглёны,
Усё ж, усё ж шукае выйсця,
Ды — побач нашыя імёны
Ці бог накрэсліў, ці
нячысцік!..

**Віктар ШНІП**

***

Богам сарваныя з вечнасці зорнай
Падаюць znічкі, гараць у траве.
Дым ад кастрышча ваўчыцаю чорнай
Ціха ў нябёсы над лесам плыве.
Я б паляцеў, каб мяне не трымалі
Тут на зямлі, як вяроўкі, грахі.
Я б паляцеў, і мяне б ці шукалі
Людзі знаёмыя.
«Быў ён благім...»—
Пэўна, сказалі б і дзверы замкнулі.
Моўчкі, задумна ў цямнечу гляджу.
Там, за цямнечай, чакае матуля,
Я ж, як бязродны, па свеце хаджу.
З ветрам-вандроўнікам попел бялёсы
Сеем у неба і хочам чагось.
А вось чаго — і не знаем, ды слёзы
Будуць і ў нас, як міне маладосць.
Сёння не плачу, і нават—ад дыму,
Што заляцеў мне праз вочы ў душу.
Сябар-бядак праклінае Радзіму,
Хоча ўцячы, як з турмы,—за мяжу.

# «ГАЛІНА» Ў ГЕРМАНІІ

У канцы 1991 года ў нямецкіх гарадах Ульме і Лаунгене (Баварыя) адбыліся выстаўкі-аўкцыёны мастакоў мінскай групы «Галіна». Спонсарамі выступілі Беларускі фонд культуры і маладзёжная арганізацыя «Наступны прыпынак — новае жыццё». У гэтай справе многае было незвычайным. Выстаўка ўключала ў сябе і экспазіцыю, дзе было 60 твораў сучаснага мастацтва, і фанаграму з песень Данчыка, Барткевіча, «Песняроў», «Мроі», і нацыянальную кухню, якая немцам прыйшлася даспадобы. Паралельна адбываліся сустрэчы за круглым сталом, дзе вялася цікавая гаворка пра сучасны стан беларускага мастацтва, культуру і палітыку. Мэта аўкцыёнаў—збор сродкаў для дзяцей Чарнобыля. Валюта ад гэтай акцыі будзе пераведзена ў рублі, і атрыманая сума дасць магчымасць дзецям з Лельчыцкага раёна паехаць лячыцца на возера Байкал. Не забыты і мастакі — удзельнікі выстаўкі, яны атрымалі 25 працэнтаў ад прададзеных твораў. Нельга не сказаць і пра ўклад, які ўнеслі ў гэту справу нашы суайчыннікі, мюнхенскія беларусы. Шмат чым дапамаглі і словам, і справай работнікі «Радыё Свабода» Вячка Станкевіч, Ларыса Верас і іншыя. Асабліва хацелася б падзякаваць мастакам, бацьку і сыну Чайкоўскім. Анатоль Чайкоўскі сваімі творамі браў удзел у выставах, і яны былі прададзены.

**А. ТАРАНОВІЧ.**

## БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР

**4 СТУДЗЕНЯ**

### СЯРЭДЗІНА ЗІМЫ

Вадаёмы скаваны лёдам і пакрыты снегам. Глухая пара. Дні кароткія. Трашчаць маразы. Мятуць завеі. Здавалася б, няма чаго рабіць цяпер ні на рэчцы, ні на возеры. Аднак сапраўдныя рыбаловы ўсё ж спадзяюцца на цуд і кожны выхадны яшчэ зацемна выходзяць на лёд, бясконца свідруюць лункі. Вядома ж, холадна сядзець нерухома, а клёву няма і няма.

Здзіўляцца тут няма чаго. Нашы вадаёмы багатыя расліннасцю. Восенню ўсе расліны апускаюцца на дно, акісляюцца, гніюць. На гэта расходуецца шмат кіслароду, і яго не хапае рыбе. Таму ў неглыбокіх і закрытых азёрах рыба практычна не ловіцца. А вось у праточных глыбокіх азёрах і вадасховішчах яе ловяць і ў студзені. Для рыбалкі найлепшыя дні—ціхія (і пахмурныя, і сонечныя), адлігі пасля завеяў і моцных маразоў. У такое надвор'е клёў бывае цэлы дзень.

У непагадзь і траскучыя маразы паспяхова можна лавіць толькі ментуза. Звычайна рыбаловы ставяць на ноч донкі, чапляючы на кручок печкура, ярша або плотку. Пражэрлівы драпежнік да нерасту і пасля яго прагна хапае прынаду.

У азёрах і вадасховішчах часцей за ўсё ловяць на чарвяка альбо матыля. На рэчках на гэту прынаду трапляюцца плотка, падлешчык, язец. Калі дно пясчанае або камяністае, можна паспрабаваць лавіць на кавалачкі свіного сала. Зімой яго чамусьці ўключае ў свой рацыён галавень.

У цэлым студзень—месяц цяжкі для рыбалова. Выязджаць трэба на знаёмыя вадаёмы, у зараней нагледжаныя месцы. Калі ж маршрут неспадзяваны, не шкодзіць запытаць у мясцовых рыбаловаў, што і як ловіцца тут найлепей у гэты час, і не забываць пра тое, што мясцовыя жыхары часта робяць у рэчках палонкі, якія прысыпае снегам.

**13 СТУДЗЕНЯ**

### СТАРЫ НОВЫ ГОД (ШЧАДРЭЦ)

Вечар напярэдадні Старога Новага года насіў назву «Шчадрэц». Атрымаў ён яе ад абрадавай вячэры—«шчодрай куцці». Куцця і сапраўды была шчодрай і багатай. Увішныя гаспадыні «налівалі» крывянку, смажылі кілбасы, ставілі на стол свежаніну, бліны і верашчаку, а пад абрус клалі салому ці сена, загадваючы на будучы ўраджай. Згодна з уяўленнямі старажытных часоў, чаго не было на стале на Новы год, не будзе ў хаце цэлы год, таму і завіхаліся так гаспадары, каб забяспечыць дабрабыт на будучыню.

Колькасць страў на стале таксама была магічнай: сем, дзевяць, дванаццаць. Кожны гаспадар, «устаўшы раненька і ўмыўшыся беленька», абыходзіў усю гаспадарку, абсыпаючы зернем, каб зарадзіўся добры ўраджай. У некаторых месцах абрад засявання выконваўся малымі дзеткамі, што хадзілі ад хаты да хаты, павесіўшы торбу з зернем, і, нібыта сеючы, віншавалі гаспадароў, жадалі ім дабрабыту і багацця на новы год. А маладзенькіх дзяўчат, вядома, цікавіла адно: ці хутка яны пойдуць замуж. Загадванні былі самыя розныя: пра нораў суджанага (памяркоўны ці ліхі), бедны ён будзе ці багаты, бо вядома, што «за добрым мужам і варонка—жонка, а за благім—і княгіня загіне».

Самую прыгожую з дзяўчат апраналі «шчодрай» у святочныя строі. Са «шчодрай» хадзілі па хатах, спявалі песні гаспадарам, жадалі ім усялякіх добрасцяў на ўвесь год і, вядома, не міналі той хаты, дзе былі маладыя хлопцы, жадалі ім добрай жонкі, каб была хлопцу па сэрцу і бацькам даспадобы. За спевы дзяўчатам выносілі пачастунак. Каля кожнай хаты гучала:

**Добры вечар, шчодры вечар,**
**Добрым людзям на здароўе!**

**А. РАЙКОВА.**




### НАДВОР'Е І НАРОДНЫЯ ПРЫКМЕТЫ

На небе шмат белых воблакаў: узімку—да марозу, улетку — да яснага надвор'я.

Воблакі ідуць нізка: зімою—перад снегам ці сцюжаю, улетку—перад дажджом.

Яснае неба зімою—перад моцнымі халадамі.

* * *

Студзень зіму напалам рассякае.

Студзень—году пачатак, зіме сярэдзіна.

У студзені мароз — сорак пудоў на воз.

Зімовы дзень, што камарыны нос, у студзені на курыны пераступ падрос.

## ЦУД У БЕЛАВЕЖЫ

Вясной 1991 года па мястэчку Белавежа, што ў цэнтры Белавежскай пушчы (на польскім баку), пайшлі чуткі, што ў Палацавым парку здарыўся... цуд! І яго можна пабачыць сваімі вачамі. Цудам неўзабаве пачалі цікавіцца турысты і экскурсанты, якія тлумна ў гэты час прыязджаюць наведаць славутую пушчу. Улетку пра незвычайную з'яву ў Белавежы пачала пісаць прэса. А што ж гэткае той «цуд»!

Вось у Палацавым парку, побач з прыродазнаўчым музеем, расце 16 вякавых дубоў. На адным у 1988 годзе адрэзалі ўсохшую тоўстую галіну. І на гэтым месцы з'явіся... вобраз людской галавы. Галаву найлепш відаць, калі стаяць на алеі. Выразна рысуюцца дэталі—валасы, вочы, вусны. Відаць таксама верхняя частка плячэй. У ёй жа зблізку Пётр Дваракоўскі, псальміст беларускай праваслаўнай царквы, угледзеў шматлікія людскія постаці. Натоўп гэты выклікае ўражанне, быццам быў перапалоханы, чагосьці баяўся. Сама постаць спадару Пятру нагадвае ікону архангела Гаўрыла, якую ён часта бачыць у магільнікавай царкоўцы. Ёсць людзі, хто атаясамлівае яе з Ісусам Хрыстом—так, як ён намаляваны на старых насценных карцінах. Адзінкі атаясамліваюць постаць з... Божай маці.

Цяжка мне вырашыць, як гэтая незвычайная з'ява ўзнікла—звычайным, натуральным ходам ці праз цуд? Нягледзячы, аднак, на гэта, выява, безумоўна, была найвялікшым атракцыёнам мінулага турысцкага сезона ў Белавежы. Тым больш, што нехта з часам выкрыў, што дуб вылучае нейкую энергію. Яе выразна адчуваеш адпаведна накіраванымі пальцамі рук. Я са сваім сябрам, лекарам Сяргеем Тарасевічам, даследаваў праз некалькі месяцаў гэты дуб. Мы ўстанавілі, што энергія адчуваецца найлепш у двух кругах—адзін на адлегласці 1—2 метры ад дрэва, другі — 12. Калі стаіш паблізу дрэва, узнікае ўражанне націску на скроні, часам галавакружэння. Абавязкова адыходзіш ад яго змучаным, часам нават з болем галавы. Мы таксама прыкмецілі, што ў надта ўражлівых асоб, якія стаяць пры дрэве, на скуры рук узнікаюць белыя плямы. Некаторыя гаварылі, што чуюць нейкія імпульсы, якія бягуць з зямлі ў ногі. Гэткае здаралася і з доктарам С. Тарасевічам. Пабойваючыся, што далейшае даследаванне дуба можа пашкодзіць нашаму здароўю, мы з сябрам увосень перасталі гэтым займацца. Лічым таксама, што без спецыяльнага абсталявання нямнога чаго можна тут дакладна вызначыць.

Але на гэтым сенсацыі, звязаныя з дубам, не вычэрпваюцца. Вось калі мы з сябрам ужо спасавалі, спадарыня Вера Гвай, якая працуе непадалёку ў гасцініцы «Іва», паведаміла нам, што ля дрэва ў час савецка-польскай вайны 1920 года жаўнеры Пілсудскага расстралялі 12 бальшавікоў, у іх ліку знаходзілася жанчына-камісар. Быццам астанкі іх захаваны ля таго дрэва. Цікава, што калі прыглядзецца да кары дуба, то можна ўбачыць дзіркі нібыта ад вінтовачных куляў. Гэтую інфармацыю трэба было б абавязкова праверыць. Ды хто гэта зробіць, асабліва ў такі неспрыяльны для бальшавікоў час. Спадарыня Вера задумваецца: можа ўсе гэтыя з'явы, спалучаныя з дубам, — вынік таго, што душы расстраляных дамагаюцца хрысціянскага пахавання?

А што думаюць аб гэтай незвычайнай з'яве чытачы «Голасу Радзімы»? Можа нехта што падкажа, растлумачыць...

**Пётр БАЙКО.**

Польшча.

**НА ЗДЫМКУ:** загадкавы дуб у Белавежы.

**Фота Анджэя КЭЧЫНСКАГА.**



## СПОРТ

### НАЗВАНЫ АЛІМПІЙЦЫ

Да зімняй Алімпіяды засталіся лічаныя дні. Ужо канчаткова вызначаны склад аб'яднанай каманды СНД, якая выступіць у Альбервілі.

З прадстаўнікоў Рэспублікі Беларусь паўныя надзеі мы ўскладаем на трохразовага чэмпіёна свету канькабежца Ігара Жалязоўскага. Удалае выступленне на розыгрышы Кубка свету і апошняе — на адкрытым першынстве СНД, якое прайшло ў Алма-Аце, пацвердзіла высокі клас чэмпіёна. Асабліва падабаецца Жалязоўскаму дыстанцыя 1 000 метраў. Чакаем, што наш зямляк прывязе з Алімпіяды свой чарговы залаты медаль.

Высокія шанцы стаць пераможцамі Гульняў і ў беларускіх біятланістаў Аляксандра Папова, Яўгена Рэдзькіна і Святланы Парамыгінай. Аляксандр Папоў у сёлетнім сезоне ўжо быў пераможцам аднаго з этапаў Кубка свету.

Шкада, што яшчэ некалькі спартсменаў нашай дзяржавы не змаглі папасці ў зборную СНД. У адным выпадку яны вінаватыя самі: параўнальна нізкія вынікі на адборачных спаборніцтвах паказалі беларускія гоншчыкі Ігар Абухаў, Віктар і Святлана Камоцкія. Тут ужо яны павінны крыўдзіцца на сябе. А вось што тычыцца Вячаслава Плаксунова, то ён... не спадабаўся сваім характарам трэнерам. Ці не настаюць ізноў тыя часы, калі лёс спартсмена залежаў не толькі ад вынікаў, а і ад асабістых амбіцый кіраўнікоў «вялікага» спорту?

Будзем спадзявацца, што на наступнай Алімпіядзе зборная Рэспублікі Беларусь будзе выступаць асобнай камандай. І спартыўныя прынцыпы стануць галоўным крытэрыем пры адборы кандыдатаў на галоўныя спаборніцтвы.

**Яўген ІВАНОЎ.**

**ЗАСНАВАЛЬНІК:** Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Газета аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку».
Індэкс 63854. Заказ № 154.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12